# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 34 (244) 27 жніўня — 2 верасня 1996 г. КОШТ 2500 РУБЛЁЎ

# ... КАБ ВЫКАНАЦЬ АБАВЯЗАК



***Генадзю Бураўкіну — 60 гадоў. Я прыйшоў да яго і пазнаў яго: такі ж малады, дасціпны і проста разумны. Што ж дадалі яму гады? Безумоўна, вопыту, сталасці і, на жаль, горычы, якая праглядвала ў ягоных адказах пра жыццё, паэзію, культуру.***

***Я ўзгадаў адну думку Васіля Быкава пра тое, што чалавек нараджаецца на гэты свет не для радасці, а для таго, каб выканаць цяжкі абавязак: годна пражыць наканаваны яму тэрмін.***

— Ці годна ты пражыў на гэтым свеце свае 60 гадоў? — *даволі нахабна папытаўся я ў Генадзя Мікалаевіча.*

— Мяркую, што так. І збіраюся з даўнімі сваімі прынцыпамі, пачуццямі пражыць і тое, што яшчэ засталося.

*Так пачалася наша гутарка з юбілярам, з якім я даўно не бачыўся, але якога даўно і добра ведаю.*

**— Ці можаш ты пералічыць усе свае пасады за актыўны перыяд жыцця?**

— Магу. Я ж неаднойчы запаўняў дакументы па ўліку кадраў. Першая пасада — стыльрэдактар часопіса "Камуніст Беларусі", потым — рэдактар, старшы рэдактар літаратурна-драматычнай рэдакцыі Беларускага радыё, загадчык аддзела, потым намеснік галоўнага рэдактара "ЛіМа", карэспандэнт газеты "Правда" па Беларускай ССР, галоўны рэдактар часопіса "Маладосць", старшыня Дзяржаўнага камітэта БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні, Пастаянны прадстаўнік Рэспублікі Беларусь пры ААН, намеснік міністра культуры і друку Рэспублікі Беларусь, галоўны дарадца віцэ-прэм'ера Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь. Пасля — адстаўка па ўласным жаданні і зараз — першы намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Вожык". Калі дадаць да гэтага, што я быў студэнтам Беларускага дзяржаўнага універсітэта, дык і будзе ўвесь мой службовы спіс.

**— Плюс амаль трыццаць паэтычных кніг?**

— Гэта не лічыцца. Гэта — у "трэцюю змену". І потым, як кажуць дасведчаныя людзі, гэта — не праца, гэта — задавальненне.

**— Я цябе ведаю тры дзесяткі гадоў і ўвесь гэты час галоўнай тваёй прафесіяй лічыў прафесію паэта. Ці не замінала ўсё тое, чым ты займаўся ў першую і другую змены, той, справе, якой ты займаўся ў трэцюю?**

— Так атрымалася, што пры любых абставінах вершы ад мяне ніколі зусім не адыходзілі. Але, з прычыны камсамольска-камуністычнага выхавання, я заўсёды ўсур'ёз ставіўся да працы, і гэта, безумоўна, не лепшым чынам уплывала на вершы.

У мяне ёсць кніжка Рыгора Саламонавіча Бярозкіна, буйнейшага нашага крытыка, глыбокага знаўцы паэзіі. Ён падпісаў яе так: "Генадзю Бураўкіну, аднолькава добраму, сумленнаму і таленавітаму ва ўсіх сваіх "профілях": чалавека, паэта, міністра." Я хачу верыць, што ў гэтай фармулёўцы мудрага і строгага чалавека прысутнічае і аб'ектыўная ісціна.

**— Калі ты пачаў сур'ёзна працаваць у паэзіі? Дзе "кропка адліку"?**

— Мяркую, што ў студэнцкія гады. Атмасфера была цудоўная, творчая. Калі ў чалавека быў паэтычны "сверб", цяжка было не зрабіцца паэтам. Я вучыўся на адным курсе з Васілём Зуёнкам, Міхасём Стральцовым, Рыгорам Барадуліным, Сямёнам Блатуном. На курс-другі раней за нас — Ніл Гілевіч, Анатоль Вярцінскі, Уладзіслаў Нядзвецкі, пазней — Янка Сіпакоў, Барыс Сачанка...

Пасля першай кнігі мяне прынялі ў Саюз пісьменнікаў, але сур'ёзная творчасць, напэўна, пачынаецца з трэцяга зборніка.

**— Ці памятаеш ты свой першы ганарар?**

— Яшчэ як! Напісаў "крытычны" вершык у школьную сценгазету і аднакласнікі мяне пабілі.

*(Заканчэнне на стар. 3)*

НАТАТНІК ТЫДНЯ

# ІГРАЙ, ГАРМОНІК!

У мэтах адраджэння, развіцця і прапаганды традыцый беларускай інструментальнай музыкі, падвышэння выканальніцкага майстэрства, выяўлення і падтрымкі народных талентаў калегіі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і ўпраўленне культуры Мінгарвыканкама прынялі рашэнне:

Надаць традыцыйнаму святу "Мінскі гармонік" статус Рэспубліканскага фестывалю, захаваўшы назву "Іграй, гармонік", і правесці яго з удзелам рэдакцыі газеты "Культура" 19-20 кастрычніка 1996 года ў г. Мінску. Упраўленням культуры аблвыканкамаў, абласным цэнтрам народнай творчасці даручана забяспечыць падбор і падрыхтоўку ўдзельнікаў фестывалю. Арганізацыйна-творчыя пытанні па падрыхтоўцы мерапрыемства ўскладзены на Мінскі гарадскі арганізацыйна-метадычны Цэнтр народнай творчасці ўпраўлення культуры Мінгарвыканкама.

Выдаткі па праезду ўдзельнікаў фестывалю да месца правядзення і назад ажыццяўляюцца за кошт мясцовых сродкаў, знаходжанне на фестывалі — за кошт арганізатараў.

### *ПАЛАЖЭННЕ АБ РЭСПУБЛІКАНСКІМ ФЕСТЫВАЛІ "ІГРАЙ, ГАРМОНІК"*

***1. Мэты і задачы***

Рэспубліканскі фестываль "Іграй, гармонік" прызначаны спрыяць:

— адраджэнню, развіццю і прапагандзе традыцый беларускай інструментальнай музыкі, выкананню прыпевак;

— развіццю выканальніцкай школы на гармоніку, падвышэнню мастацкага ўзроўню рэпертуару выканаўцаў;

— арганізацыі вольнага часу насельніцтва, далучэнню яго да нацыянальнай музычнай спадчыны.

***2. Умовы правядзення фестывалю***

Фестываль складаецца з адкрыцця, конкурсу выканаўцаў, выступленняў на пляцоўках горада Мінска, гала-канцэрта.

Да ўдзелу ў фестывалі запрашаюцца лепшыя дарослыя і дзіцячыя выканаўцы на гармоніку, выканаўцы прыпевак незалежна ад месца працы, адукацыі.

Ад кожнай вобласці павінна быць прадстаўлена **да 5 гарманістаў** (адзін з іх школьнага ўзросту), **да 4 выканаўцаў прыпевак** (адзін з іх школьнага ўзросту), **1 ансамбль гарманістаў, 1 прадстаўнік** абласнога цэнтра народнай творчасці ці ўпраўлення культуры. Склад дэлегацыі не можа перавышаць **20 чалавек.**

У конкурсе прымаюць удзел запрошаныя на фестываль выканаўцы. Ад г. Мінска — пераможцы гарадскога агляду. Конкурсны рэпертуар выканаўцаў павінен уключаць творы, характэрныя для прадстаўляемага рэгіёна. Працягласць конкурснага выступлення: гарманістаў, выканаўцаў прыпевак — да 8 хвілін, ансамбляў гарманістаў — да 15 хвілін.

Абласныя цэнтры народнай творчасці да **15 верасня 1996 года** накіроўваюць заяўку на ўдзел у Мінскі гарадскі арганізацыйна-метадычны Цэнтр народнай творчасці (220005 г. Мінск, вул. Казлова, 2. Кантактныя тэлефоны: (017) 233-13-36, 233-37-18).

***3. Вызначэнне лепшых выканаўцаў***

*Удзельнікі конкурсу выступаюць па намінацыях:*

— **майстар-клас** (лаўрэаты, дыпламанты першай ступені рэспубліканскіх, міжнародных фестываляў, конкурсаў);

— **профі-клас** (выканаўцы з музычнай адукацыяй);

— **"Надзея"** (клас будучых лаўрэатаў);

— **юніёр-клас** (дзеці);

— **ансамбль.**

*Конкурсныя выступленні ацэньваюцца журы па наступных крытэрыях:*

— выканальніцкае майстэрства і сцэнічая культура;

— рэгіянальныя традыцыі і асаблівасці музычных твораў;

— выкананне ўмоў конкурсу.

*Па выніках конкурсу лепшыя выканаўцы рашэннем журы ўзнагароджваюцца грашовымі прэміямі, каштоўнымі падарункамі, дыпломамі.*

## АДНЫМ АБЗАЦАМ

* * *

**У архівах Камітэта дзяржаўнай бяспекі Беларусі** быў знойдзены паэтычны аўтограф класіка ўкраінскай літаратуры Уладзіміра Сасюры. Знойдзены тэкст, паводле папярэдніх меркаванняў спецыялістаў, мае дачыненне да паэмы "Мазепа". Арыгінал аўтографа перададзены Надзвычайнаму і Паўнамоцнаму паслу Рэспублікі Украіна на Беларусі Уладзіміру Жалібе.

* * *

**Імя случанкі Алены Кіш** унесена ў "Сусветную энцыклапедыю прымітыўнага мастацтва". Сёлета мастачцы споўнілася б 100 гадоў. Да юбілею Капыльскі краязнаўчы музей наладзіў выставу твораў славутай зямлячкі. На сённяшні дзень знойдзена трынаццаць своеасаблівых малюнкаў на тканіне, але паводле меркавання спецыялістаў, мастачка стварыла не менш за трыста падобных малюнкаў.

* * *

**У Міністэрстве юстыцыі** зарэгістраваны новы Свята-Афанасьеўскі манастыр. Ён будзе пабудаваны на Брэстчыне каля вёскі Аркадзія, дзе знаходзяцца капліца ў гонар Афанасія Філіповіча-Брэсцкага.

* * *

**У сталічным Доме афіцэраў** адбыўся бенефіс мастацкага кіраўніка харэаграфічнага ансамбля "Харошкі" народнай артысткі Беларусі Валянціны Гаявой. На адрас юбілярკі прыйшлі віншавальныя тэлеграмы з усіх куткоў былога Савецкага Саюза. Далейшых творчых поспехаў зычылі вядомыя палітычныя і культурныя дзеячы краіны. У канцэрце ўзялі ўдзел кампазітар Эдуард Ханок, Ядзвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч, ансамбль "Песняры", спявачка І.Абалян, Тэатр моды Сашы Варламава.

* * *

**Рыхтуецца да друку** чарговы нумар інфармацыйнага бюлетэня "Культурнае жыццё Беларусі", які выдае аддзел Інфармкультура Нацыянальнай бібліятэкі. У дадатку будуць змешчаны тыповы штатны расклад цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Рэспублікі Беларусь, паведамленне пра фестываль харавых калектываў у Ляхавічах (БелІПК), каляндар памятных дат на 1997 год, падрыхтаваны супрацоўнікамі навукова-бібліяграфічнага аддзела Нацыянальнай бібліятэкі.

# ЖЫВАПІС — СВОЕАСАБЛІВАЯ МОВА

У мастацкім цэнтры "ЖЫЛБЕЛ" адбылася выстава жывапісу мастакоў Івана Кліменкі і яго дачкі Ганны...

Карціны мастакоў выразна гарманіруюць саімі колерамі і нават ідэямі. Але усё ж складаецца ўражанне, што Ганна —17-гадовая дзяўчына — па творчым рытме ўжо перасягнула бацьку. Асабліва адзначу "Партрэт шахматыста", "Сон", "Партрэт мастака". Яны нагадваюць фрагменты з казкі Шарова. Ад іх падымаецца хомар, у якім гучыць матыў казачнай змрочнай песенькі: Тарапутта... Путта-тара..."

Мастацтвазнаўца Ларыса Бортнік у сваім артыкуле напісала: "Іван Кліменка — мастак, для якога жывапіс не толькі сродак самавыяўлення, а своеасаблівая мова, якой майстар карыстаецца ў размове з гледачом." Магчыма і так, але мне здаецца, Ганна Кліменка акрамя гэткай мовы вывучыла і мову душы.

**З.В.**



*На рэпрадукцыі: Іван Кліменка. "Вечар на моры". Палатно, алей.*

# МІЖНАРОДНЫ АЎТАКІНАМАРАФОН "СІНЕМА-100" У ВЕРАСНІ ПРЫЕДЗЕ Ў МІНСК З ЛЕПШЫМІ ФІЛЬМАМІ З КАЗАХСТАНА

Дзень казахскага кіно будзе адзначаны 14 верасня ў сталічных кінатэатрах "Цэнтральны" і "Перамога". Прычым гледачоў чакаюць сустрэчы не толькі з найбольш цікавымі карцінамі, але і з самімі рэжысёрамі. Найбольшую цікавасць, безумоўна, выклічуць мастацкія стужкі, якія сталі прызёрамі міжнародных кінафестываляў. Гэта фільм рэжысёра Рашыда Нугманава "Ігла" з Віктарам Цоем у галоўнай ролі, твор казахскага майстра Талгата Цяменава "Тора", а таксама карціна "Балкон" Калыкбека Салыкава, знятая паводле твораў вядомага пісьменніка Алжаса Сулейменава.

Як стала вядома, сяброўскі візіт кінематаграфістаў Казахстана на Беларусь стане яшчэ і часткай буйной культурнай акцыі, прысвечанай стагоддзю сусветнага кіно. Менавіта па ініцыятыве нашых гасцей пад эгідай ЮНЕСКО праводзіцца Міжнародны аўтакінамарафон "Сінема-100". Маршрут яго праходзіць праз 23 краіны Еўропы і Азіі у сталіцах якіх будуць наладжаны бліцфестывалі казахскага кіно. Акрамя гэтага ў складзе марафона працуе здымачная група "Мы — еўразійцы". Героямі гэтай карціны сталі акадэмік Дзмітрый Ліхачоў, пісьменнікі Чынгіз Айтматаў, Азіз Несін, паэт Фрэдэрык Маер, Алжас Сулейменаў, рэжысёры Бернарда Берталучы, Анджэй Вайда, а таксама рэлігійныя дзеячы і вядомыя палітыкі.

**Вольга ШЧАДРЫНА**

# НАШЫ Ў МАСКВЕ

Аматары рэдкіх кніг атрымалі сёлета ад маскоўскага выдавецтва "АРГО-РИСК" каштоўны падарунак. Яно выпусціла ў свет калекцыйнае выданне — "Современный белорусский верлибр". Беларускія аўтары падабраны даволі розныя па сваёй творчай накіраванасці — Алесь Разанаў, Людка Сільнова, Едрусь Мазько, Лера Сом, Сяргей Мінскевіч, Ігар Сідарук, Зміцер Вішнёў.




Кніга надрукавана на файнай паперы з вадзянымі знакамі агульным накладам 100 (!) асобнікаў. Першыя 20 экземпляраў уручную пранумераваны самім перакладчыкам Дзмітрыем Кузьміным.

Выдавецтва "АРГО-РИСК" ужо паспела зарэкамендаваць сябе серыямі кніг — "Ex ungue leonem" і "?!" — усе яны карыстаюцца попытам у чытача. І ў букіністычных крамах прадаюцца па вялікім коштам.

**Зміцер ВОЛКАЎ**

# ГОРАД СЛОЎ ЛЕСІ ТЫШКОЎСКАЙ

Заўважнай падзеяй у шэрагу літаратурных імпрэз Цэнтральнай бібліятэкі імя Янкі Купалы сталася творчая вечарына "У гэтым горадзе слоў" кіеўскай паэтэсы Лесі Тышкоўскай, якая адбылася 19 чэрвеня.

Леся Тышкоўская — аўтар двух зборнікаў вытанчанай паэзіі: "Сны на беразе жыцця" (1992) і "Тым, што засталіся тут" (1994). Творчасць Лесі ўключае ў сябе і традыцыйнае вершаскладанне, і верлібр. Менавіта верлібр стаўся асноўнай фарматворчай матрыцай вечарыны. Верлібр чытаўся, выконваўся рэчытатывам пад раяль і гітару, а таксама сцэнаграфаваўся. Вершы распавядалі гісторыю чалавечага жыцця, пражытага ў нястомных пошуках праўды гэтага свету.

Аўдыторыя, што сабралася ў канцэртнай зале бібліятэкі, у поўнай меры адчула глыбіню і напругу паэтычнага дара Лесі, адчула "сілавое поле верша і слова ў ім, што вабіць нас таемным запаветным сэнсам" — як адзначыў відны кіеўскі культуролаг і перакладчык М.Беларусец у прадмове да "Сноў на беразе жыцця".

З кнігамі Лесі Тышкоўскай, якія яна падарыла бібліятэцы, можна азнаёміцца ў чытальнай зале мінскай ЦБ імя Янкі Купалы.

**А.БІБЛІК**

## ПАВАЖАНЫЯ СЯБРЫ!

***Усім, каму неабыякавы лёс беларускай культуры, нагадваем, што ў гэтым годзе нашае выданне паступае ў шапікі "Белсаюздруку" ў абмежаванай колькасці. Таму каб мець магчымасць рэгулярна атрымліваць і чытаць газету "Культура", раім Вам падпісацца на яе з IV квартала 1996 года. Падпіска прымаецца без абмежаванняў усімі аддзяленнямі сувязі.***

***Кошт падпіскі:***

***на адзін месяц — 12 тысяч рублёў;***

***на чацверты квартал — 36 тысяч рублёў.***

***Падпісны індэкс "Культуры" — 63875.***

***Выбіраючы нашу газету, Вы аддаяце свой голас:***

***— за нацыянальнае адраджэнне Беларусі;***

***— за родную мову;***

***— за зберажэнне і развіццё культурных традыцый нацыянальных меншасцей;***

***— за больш важкі клопат дзяржавы ў вырашэнні матэрыяльна-эканамічных праблем культуры.***

***Рэдакцыя***

ЮБІЛЕЙ

# ... КАБ ВЫКАНАЦЬ АБАВЯЗАК

*(Пачатак на стар.1)*

**— У 60-я гады на адзін з пісьменніцкіх з'ездаў у Мінск прыехала маскоўскае літаратурнае кіраўніцтва — Вадзім Кажэўнікаў — і пачало з трыбуны вучыць Быкава, як трэба пісаць. На гэта Васіль Уладзіміравіч адказаў, што для яго існуе адзін-адзіны суддзя — Чытач. Як у паэта Бураўкіна склаліся адносіны з чытачамі?**

— Думаю, не толькі ў мяне здараюцца моманты, калі пытаешся ў самога сябе: а ці патрэбна тое, чым я займаюся, каму-небудзь? Дык вось, калі ў такі час здараліся сустрэчы з чытачамі і я адчуваў залу, мне была радасна ад узаемаразумення і ўзаемнай патрэбнасці.

**— А лісты, тэлефанаванні, прыхільніцы?**

— А як жа! Напрыклад, ліст з Ленінграда. Не ад літаратара, не ад крытыка, нават не ад настаўніка — ад ветэрана, які прачытаў у перакладзе маю кніжку "Верю полдню" і напісаў цёплы, разумны і шчодры ліст, які, бачыш, памятаю дасюль...

Пісалі кампазітары з Масквы, Далёкага Усходу, Украіны, дасылалі музычныя выданні, дзе былі песні на мае вершы. Памятаю ліст з музея Васіля Шукшына, што на ягонай радзіме. Прасілі даслаць рукапіс верша "Шукшынская каліна" па-беларуску. Былі і іншыя лісты. Нейкая жанчына напісала жонцы: "Якая вы шчаслівая, што замужам за паэтам..."

**— Як пракаментавала гэты ліст жонка?**

— Яна сказала: "Божа, калі б яна толькі ведала, якое гэта цяжкое шчасце!.." А ў Бешанковіцкім раёне была паклонніца, якая амаль на кожны мой верш або артыкул дасылала вялікі ліст.

**— Як калегі-паэты ставіліся да тваёй творчасці?**

— Ты сам ведаеш, наколькі гэта істотна — ацэнка прафесіяналаў, "гамбургскі лік". І калі выходзіць кніжка і ты атрымоўваеш лісты ад паэтаў і крытыкаў Літвы, Грузіі, Украіны, з Масквы, адчуваеш, што зробленае патрэбна не толькі табе.

**— Я ўзгадаў выпадак, які прымусіў мяне адчуць задаваленне ад учынка Генадзя Бураўкіна. На апошнім з'ездзе беларускіх пісьменнікаў, калі тваё прозвішча ўнеслі ў спіс для галасавання кандыдатуры старшыні Саюза, ты папрасіў самаадвод і зрабіў гэта даволі жорстка. Ты сказаў братам-пісьменнікам: "Вы спазніліся з гэтай прапановай на пятнаццаць гадоў". А калі б гэта адбылося, дык што тады?**

— Вельмі не люблю ўмоўнага ладу ў дачыненні да мінулага.

**— Тым не менш, калі б атрымалася, што б ты зрабіў з Саюзам і што б Саюз зрабіў з табою?**

— Ну, што б я зрабіў з Саюзам — я ведаю, але і не менш дакладна ведаю, што б Саюз зрабіў са мною. А калі адкінуць жарты, я б вельмі стараўся, хаця і не ўпэўнены, што атрымалася б, зрабіць яго творчым, "сяброўскім" асяродкам. Магчыма, пятнаццаць гадоў таму і атрымалася б. Зараз гэта не атрымалася. Менавіта з гэтай прычыны я і зрабіў самаадвод.

Я б паспрабаваў зрабіць з Саюза своеасаблівы літаратурны фонд, а не ідэалагічную арганізацыю. Таму што, калі казаць шчыра, ну як Саюз можа паўплываць на тое, што піша Васіль Быкаў альбо Рыгор Барадулін? Сапсаваць настрой, вядома, можа — у гэта я веру, а дапамагчы напісаць... Дапамагчы пісьменніку своечасова адпачыць там, дзе той жадае, дапамагчы грашыма, калі іх нестае, паспрыяць прабіцца ў выдавецтва, арганізаваць сустрэчы з калегамі — вось што патрэбна. Колькі б у выніку добрых кніжак магло нарадзіцца, а не памерці, так і не пабачыўшы свету!..

І яшчэ: я б паспрабаваў зрабіць Саюз агульным "домам" пісьменнікаў, куды яны хацелі б прыйсці як дахаты: для споведных гаворак, для сяброўскіх разваг...

— Так. І гэты дом нават лепшы за той. Гэта — мой уласны дом. Дзіўна, жывеш дзесяткі гадоў у сям'і, здавалася б, павінен прызвычаіцца, а з гадамі сям'я для мяне становіцца ўсё больш дарагой, набывае ўсё большае значэнне. І, безумоўна, у мяне ёсць сябры. І хай мы не вельмі часта сустракаемся, але сама магчымасць прыйсці і пасядзець у Васіля Быкава... Альбо вось раптам забяжыць Рыгор Барадулін. Ці Мікола Матукоўскі, мой даўні сябра, да якога я магу прыйсці ў любым настроі — і ў добрым, і ў кепскім — і заўжды знайду разуменне і падтрымку.

На жаль, з цягам часу ў кожнага з нас сапраўдных сяброў становіцца ўсё меней. Але, дзякаваць Богу, яны ёсць.

**— Генадзь, ты зараз даеш інтэрв'ю для газеты "Культура". У гэтай галіне** такоў! Розныя накірункі, розныя "ізмы" — і ў большасці сваёй вельмі таленавітыя. Мастакі атрымалі магчымасць выказаць сябе, лепшыя сярод іхніх твораў — абсалютна еўрапейскага ўзроўню.

Многія замежныя паслы, з якімі я сябрую і сустракаюся, гаворыць мне: "Вы нават не ведаеце сапраўднай цаны сваім мастакам. Калі свет даведаецца пра іх, вы адчуеце шчасце ад таго, што такія мастакі нарадзіліся і працуюць у вас, на Беларусі".

Але тым не менш, агульны ўзровень культуры мяне не задавальняе. Мне здаецца, што адбываецца дзяржаўна заахвочваемы "адыход" не толькі ад нацыянальнага ў культуры, але і ад уласна мастацтва. Гэта небяспечная тэндэнцыя.

Не магу не адзначыць трывожнае становішча з выпускам

Памятаю, калі я рэдагаваў часопіс "Маладосць", да нас часта проста так заходзіў Іван Паўлавіч Мележ. Ужо хворы. Мы тады нават не падазравалі, наколькі ён быў хворы. Аднойчы ён зайшоў — і мы з Вячаславам Адамчыкам, які быў маім намеснікам, уважліва слухалі яго. І тут забягае Алесь Адамовіч, і мы працягваем гутарку ўжо ўчатырох. Раптам Алесь спахапіўся: спазніецца на нейкую навуковую нараду ў Акадэмію навук. І вось зірнуў на яго Іван Паўлавіч і ціха так кажа: "Алесь, чаго ты так бяжыш? Думаеш, што так часта ты можаш з Мележам пасядзець і паразмаўляць?" І калі Іван Паўлавіч пайшоў ад нас і мы ўзгадвалі той выпадак, Алесь сказаў мне: "Гена, сапраўды гаворка з Мележам была важней за тую акадэмічную нараду."

Дык вось, Саюз павінен, на маю думку, быць такім месцам, куды можна прыйсці і пагрэць сваю душу каля сяброў, — і нікуды, ні на якія нарады не спяшацца. Каб не ўпусціць у сваім жыцці шчасце мець шчырую гутарку з Іванам Паўлавічам, ці Піменам Емяльянавічам, ці Уладзімірам Сямёнавічам...

Вось такі Саюз я хацеў бы "зрабіць". Безумоўна, прыйшлося б аддаць шмат нерваў і здароўя. Ці атрымалася б? Жыццё не дало мне магчымасці праверыць гэта. І, магчыма, лёс разумнейшы за нас...

**— Ці маеш ты сёння такі Дом, куды можаш прыйсці, як у той Саюз з тваёй мары?** **чалавечай дзейнасці, так бы мовіць, у яе сярэдзіне, ты знаходзішся ўсё сваё свядомае жыццё і ў розных кропках яе каардынат: і знізу, і зверху...**

— ... вось толькі збоку не быў.

**— Ці не распавядзеш караценька пра сучасны стан культуры на Беларусі?**

— Караценька не атрымаецца. Немагчыма даць адназначную ацэнку альбо адну сціслую фармулёўку. Але тое, што культура зараз не ў вялікай пашане, для мяне бясспрэчна. Калі сяржант АМАПа атрымоўвае заработную плату ў некалькі разоў вышэйшую за прафесарскую, не кажучы ўжо пра журналістаў, акцёраў, мастакоў, — якія могуць быць пытанні? Мы жывем зараз у перыяд свядома непаважнага стаўлення чынавенства да інтэлігенцыі, да лепшага, што існуе ў сучаснай культуры. Куды ж болей, а дакладней, куды ж меней, калі з высокіх трыбун груба зневажаюць Васіля Быкава, Ніла Гілевіча, Рыгора Барадуліна?!

Але — і гэта радуе — у гэты ж самы час з'яўляюцца таленавітыя спектаклі рэжысёра Пінігіна, якія сведчаць пра высокую тэатральную культуру. А прэм'ера "Страсцей" Андрэя Мдзівані ў пастаноўцы Валянціна Елізар'ева — цудоўны балет, які не сорамна везці ў любы рафінаваны тэатр свету! А опера Сяргея Картэса "Візіт дамы" паводле п'есы Дзюрэнмата — таксама вельмі цікавая з'ява. А выставы нашых мас- кніг. Што гэта за жыццё ў пісьменнікаў, якіх зусім не друкуюць, чые кнігі нельга купіць?.. Нядаўна я быў у Віцебску і абышоў усе кнігарні, каб набыць сваю апошнюю кнігу вершаў "Узмах крыла" — хацеў падарыць яе сябрам. Нідзе кнігі не было. Ніводнага паасобніка. Гандляры кажуць, што кніга ў продаж не паступала. А чыноўнікі ў Мінску лямантуюць, што беларускую кнігу не купляюць. Але ж я хацеў купіць! Няма! Зачараванае кола? Вось так і ўзнікае разбуральная і небяспечная легенда: беларускія кнігі нікому не патрэбныя. Такім чынам фарміруецца і апраўдваецца дзяржаўная антыбеларуская палітыка. І не толькі ў дачыненні да літаратуры...

Культуры сёння цяжка. І ўсё ж я б не стаў рабіць трагічных высноў. Культура працягвае жыць у народзе. Калі мы ідзём да цывілізаванага грамадства, як жа можна абысціся без дзяржаўнай падтрымкі культуры, без яе дзяржаўнай аховы? Чым мы застанемся ў гісторыі, калі не культурай? Трактарамі? Дык іх някепска робяць і ў суседняй Польшчы. Машынамі? У Амерыцы іх робяць куды лепш за нас. А таго, што зрабілі, робяць Купала, Мележ, Быкаў, Брыль, Барадулін, ніхто ў свеце не зробіць...

І гэта неабходна зразумець тым, хто сёння прымае дзяржаўныя рашэнні. І чым хутчэй яны гэта зробяць, тым лепей.

**— А ці не будзе запозна для культуры?**

— Не будзе. Чыноўнікі — часовыя. Культура — вечная. Іншая справа, што бываюць перыяды, калі культуры цяжка. Як зараз, калі яна штодзённа залежыць ад бескультурных людзей. І ў такія часы складваецца ўражанне, што культура гіне ці нават загінула. Гэта памылковае ўражанне. Колькі ні палілі кнігі і палотны, колькі ні разбуралі храмы, колькі ні цкавалі інтэлігенцыю — зямля працягвала круціцца, цемрашалы знікалі, а культура, як чароўная птушка Фенікс, адраджалася і зноў высока ўзляталі, несучы святло. Вырваць культуру з народа немагчыма. Можна вырваць працаўніка культуры, знішчыць пісьменніка, але слова і душу — немагчыма.

Таму я гляджу ў будучыню з аптымізмам. Наш народ не вычарпаў сябе ў ніводнай з галін культуры і мастацтва. Праца ж самаасэнсавання і духоўнага росквіту можа ісці толькі праз культуру. Іншага шляху на гэтым свеце не існуе, нават і ў "адной", асобна ўзятай дзяржаве!

**— Як шырока сям'я Бураўкіных будзе адзначаць 60-годдзе свайго "галавы"?**

— Што значыць — шырока?

**— Гуляць дык гуляць! Наняць рэстаран, запрасіць дзвесце гасцей, гэту, як яе, Машу Распуціну.**

— Маё "міністэрства фінансаў" такія мерапрыемствы не пануе з прычыны адсутнасці наяўнасці... Усё будзе праходзіць у сямейным асяродку: дзеці, унукі. У мяне вельмі добрыя дзеці і тры мілыя ўнукі — усе хлопцы. Усе яны будуць сядзець за нашым святочным сталом — і ў гэтым маё шчасце.

**— Шчаслівы дзед. Да такога "маленькага" юбілею так шмат унукаў і такія інтанацыі ў размове пра сям'ю... А як грамадскасць мяркуе адзначыць твой юбілей?**

— О, гэта пытанне не да мяне... Сустракае мяне нядаўна адзін "начальнік", вельмі добры чалавек і да мяне з павагай ставіцца, і кажа: "Слухай, у цябе ж неўзабаве юбілей?" —"Так, хутка ўжо". — "Што будзем рабіць?" Адказваю: "Я сваё зрабіў — дажыў да шасцідзесяці гадоў. Калі вы лічыце, што гэта мае значэнне не толькі для мяне, давайце прапановы."

*Тут мы абодва смяёмся і я разумею ўжо дакладна: яму не 60 гадоў — мяркуючы па смеху, жартах і злёгку іранічным стаўленні да свайго юбілею. Бо заставайся Генадзь Мікалаевіч паэтам ва ўсе гады жыцця.*

**— Ці адчуваеш ты свой узрост?**

— Ну, калі мне ўсё яшчэ падаецца, што ў панядзелак прачнуўся і пайшоў "на службу" і вярнуўся толькі ў пятніцу з працы і калі я яшчэ вытрымліваю такі тэмп, дык значыць,— я яшчэ малады і маю права на новыя справы і планы...

*Ад імя рэдакцыі газеты і яе чытачоў я жадаю Генадзю Бураўкіну новых поспехаў, новых вершаў і такога ж, як сёння, маладога бляску ў вачах.*

**Юбіляра віншаваў**
**Навум ЦЫПІС**

## КАРАНІ

*"Калі Бог цалуе нованароджанага ў лоб, значыць, нарадзіўся навуковец, калі ён цалуе немаўля ў вусны — з'явіўся прамоўца альбо спявак, у грудзі — сапраўдны мужчына, а калі ў руку — ганчар".*

***З тоста Мікалая Несцяроўскага на святочным прыёме.***

*"Тое, што адбылося ў Бачэйкаве, — гэта рэанімацыя ганчарнай справы на беларускай зямлі".*

***Юрый Радзіёнаў, доктар медыцынскіх навук.***

# АДРАДЖЭННЕ

## Зацемкі з першага Рэспубліканскага свята "Ганчарнае кола-96"

Свята пачалося незвычайна. Навуковы кіраўнік рэстаўрацыйных і аднаўленчых работ у знакамітым фамільным маёнтку Цеханавецкіх, якія праводзяцца пад спонсарскай эгідай Віцебскага аддзялення Фонду Сораса, доктар навук Анатоль Федарук правёў з удзельнікамі і гасцямі "Ганчарнага кола" экскурсію па найпрыгажэйшых мясцінах былога паркавага ансамбля Бачэйкава, калісьці аднаго з культурных і прамысловых цэнтраў Беларусі.

Са здзіўленнем і захапленнем людзі даведваліся пра тое, што яшчэ ў XV стагоддзі тут годна і заможна жылі іхнія продкі, якія самаахвярна любілі гэтую зямлю і вышэй за ўсё цанілі незалежнасць. І дамагаліся гэтага, развіваючы гаспадарку і прывіваючы культуру. Дэвізам гэтых людзей было служэнне радзіме без аніякай узнагароды.

— Мы стаім на зямлі, дзе быў велічны палац. Гэтыя руіны — усё, што ад яго засталося. Вось гэтыя некалькі дрэваў — рэха чароўнага паркавага ансамбля, які мог паспрачацца ў харастве з Версалем.

Анатоль Тарасавіч такі эмацыянальны, такі перапоўнены ведамі і такі цікавы, як сапраўдны прапагандыст, што слухачы некалькі разоў перапынялі ягоную двухгадзінную прамову пад адкрытым небам апладысментамі.

— Мы знаходзімся з вамі на сапраўднай зямлі Беларусі. Тут ужо ў XVI стагоддзі былі прыгожыя дамы, бібліятэкі, паркі — высокаразвітыя прамысловасць і сельская гаспадарка, заможнае жыццё і годнасць.

Цяпер вы разумееце, лепшага месца для свята ганчароў немагчыма было абраць. Гэта — адраджэнне традыцый беларускага нацыянальнага духу, што так неабходна нам сёння.

Увечары адбылося вялікае тэатралізаванае відовішча. Сюжэтныя танцы, карагоды, песні... Карціны старажытнай мінуўшчыны гэтай зямлі — абрады, паганскія сцэны — велізарная вогненная карусель, жывое вогненнае кола... Жывая вада... Радасць вызвалення... Вяселле...

"Ой, спадабалася мне тая дзяўчына!", "Калі дзяўчына скрадзе гаршчок і разаб'е яго, дык у той год пойдзе замуж!".

Усё пачынаецца з кахання.

Пасля дзвюх з паловай гадзін гэтага цудоўнага відовішча ўсе гледачы, а іх былі сотні! — прыйшлі да абпальнай печы, якую адмыслова для свята пабудаваў майстар з Івянца Антон Пракаповіч. Большасць прысутных упершыню бачылі, як закладаюцца ў печ "сырыя" ганчарныя вырабы. (Раніцай іх вымуць з печы і падораць гасцям...)

Алег Каваль, галоўны рэжысёр свята.

— Кола — гэта зямля, агонь, вада. Чалавек авалодаў гэтым і здолеў стварыць усё неабходнае для жыцця на зямлі. Паглядзіце, якая тут прырода! Тут — толькі працаваць, жыць, кахаць і радавацца. Мне хацелася, каб людзі, што прыехалі на сваё першае свята — ганчары і госці, пабачылі гэта і адчулі сваю прыналежнасць да стварэння гэтага свету. Сродкамі мастацтва я паспрабаваў гэта здзейсніць. Гэтае відовішча павінна было "прымусіць" кожнага гледача паставіць сабе пытанне: "Вось яно — ганчарнае кола, кола жыцця. Што замінае нам жыць у гэтым коле, коле Дабрыні і Кахання? І ствараць, як ствараюць майстры, што прыехалі сюды".



Сонца і госці віталі майстроў на ганчарным балі (інакш не назавеш) на Бачэйкаўскім стадыёне, дзе яны прадстаўлялі на суд гледачоў і на кірмаш свае вырабы. Рознакаляровыя керамічныя вырабы дэманструюць "Дамы рамёстваў" з Шуміліна, Чашнікаў, Бабінавічаў, Лёзна, Крычава, Палацы культуры Светлагорска, мінскі — "Юнацтва", магілёўскі, германовіцкі і гарадоцкі музеі...

Майстар Сямён Саўрыцкі з Лагойска маўклівы. Замест яго распавядае калега:

— На выставе ў Фінляндыі да Сямёна падышоў стары чалавек. Ён узяў у рукі збан, потым цацку і раптам заплакаў... Аказалася — беларус, якога лёс занёс далёка ад роднай хаты паўстагоддзя таму.

— Колькі каштуе? — папытаўся ён.

— Што вы! — адказаў майстар. — Вазьміце як падарунак.

І стары заплакаў у другі раз.

Я слухаў гэты аповед, глядзеў на вырабы майстра і ўсведамляў, што ганчарства — гэта не проста рамяство і нават не толькі мастацтва. Гэта — душа народа, увасобленая ў адухоўленай, ажыўленай гліне. Гэта памяць дома, зямлі, Айчыны. Сталы пад дахамі і на кожным — гліняная цудадзейства: задымленая, паліваная кераміка, тэракота — посуд, цацкі, упрыгожанні. І майстры — старыя, маладыя, сем'і, калектывы. Наталля і Уладзімір Яленскія, Павел Рабаў, Сяргей Рындзёнак, Аляксандр Ганчароў, Наталля Акачонак, Міхаіл Насановіч, Юрый Боўда, Сяргей Масіхо... Ніводны не падобны да іншага, у кожным — цэлы свет.

Стол Уладзіміра Татарыса стаіць трошкі ззаду. "Што вы ў цянёчку схаваліся?" — папытаўся я. "Хто захоча — знойдзе", — адказаў майстар. Годнасць, спакой, упэўненасць. Ганчар — гэта Прафесія. Дробязныя людзі ў ганчарах не затрымліваюцца. І за плячыма Уладзіміра Іосіфавіча дзесяткі гадоў працы з глінаю. Ягоныя вырабы экспануюцца ва ўсіх галоўных музеях краіны і ў многіх замежных.





Пятро Шаціла з Мінска. Дваццаць гадоў запар навучае дзяцей. "Як вы трапілі сюды?" — "Папрасілі — прыехаў". Вось так. Не напрошваюцца, едуць паводле запрашэння. І гэта — характар сур'ёзнага ганчара. Пятро прывёз нетрадыцыйную кераміку. Ягоныя фігуры апранутыя ў нацыянальныя строі, якія "прываранья" да гліны.

Каля стала Аляксандра Кірычонка і ягонага калегі Мікалая Пратасені з Салігорскага цэнтра народнай творчасці два дні не змяншаўся натоўп гледачоў і пакупнікоў. Іхняя "стракатая" кераміка вылучалася нават на фоне разнастайнасці і шматколернасці, што панавалі тут. Старшыня Беларускага саюза майстроў народнай творчасці Яўген Сахута так ахарактарызаваў гэтую кераміку: "Уявіце сабе, што вы ўбачылі жывога маманта — гэта і ёсць рабая, альбо зварная, кераміка Кірычонка". Майстру 24 гады. Ён адкрывае дзецям таямніцы ганчарнага кола.

— З дзяцей усё і пачалося. Мы вазілі іх у этнаграфічныя экспедыцыі. У нас некалі былі буйныя цэнтры ганчарства ў вёсках Сіняўка, Ганевічы, Забалотнікі... І вось у гэтых вандроўках даведаліся, што ў адной з вёсак яшчэ жыве майстар па прозвішчы Вярэйка, які ведае сакрэт рабой керамікі, што страчаны тысячу гадоў таму. Знайшлі дзеда, і ён распавёў нам пра гэта. Калі б не было з намі дзяцей — мабыць, не раскрыў бы свой сакрэт. Гэта адбылося чатыры гады таму. Безумоўна, мы пайшлі ўжо далей: эксперыменты, вопыт.

На стале сталі рабыя міскі, талеркі, глечыкі, падсвечнікі, гаршкі... Святочныя і нязвыклыя для вока гліняныя "маманты" — такія вырабы людзі бачылі ў апошні

***Меркаванне Алены БОГАНЕВАЙ было для мяне асабліва каштоўным і як аднаго з вядучых спецыялістаў Міністэрства культуры, і як аднаго з актыўных арганізатараў "Ганчарнага кола-96". І яшчэ, як высветлілася, строгага, але аб'ектыўнага крытыка. Сёння даволі рэдка сустракаеш крытыку ў імя справы. І хаця мне падаецца, што Алена Міхайлаўна залішне строгая ў ацэнках, але я не магу не прапанаваць увазе чытача не выказванні. Тым больш, што ў будучым яна мяркуе рыхтаваць да "старту" новыя падобныя святы.***

— Адбылося свята альбо не — меркаваць не арганізатарам. Для мяне гэта пакуль што кавалак несфармаванае гліны, які майстар кладзе на кола, каб з яго што-небудзь атрымалася. Добра, што мы зараз павярнуліся, нарэшце, тварам да ганчарнага мастацтва. Але тварам да самога ганчара нам яшчэ трэба павярнуцца. Мы не ўбачылі на свяце канкрэтнага чалавека, майстра з ягоным душэўным хваляваннем, турботамі, біяграфіяй, радасцямі. Мабыць, гэта яшчэ наперадзе. Але добра ўжо тое, што ганчарства як цяжкая творчая праца, вынікі якой на кожным свяце былі толькі фонам, стала тут відавочным: на вачах людзей майстры стваралі. Многія з нас бачылі гэта ўпершыню.

І ўсё ж агульнае ўражанне ад свята — недааформленасць, недапрацоўка. Мы так захапіліся тэхнікай і тэатралізацыяй, што нібы трохі вынеслі за дужкі ганчара і гледача. Самі ганчары наўрад ці будуць строгія да нас: усё ж выехалі, свет пабачылі, сябе паказалі. Але для нас гэта ўрок. І важна — пераадольваць свае памылкі.

## КАРАНІ

# РАДАСЦІ

раз, калі хрысціянства на гэтай зямлі яшчэ не паўставала...

Наступны стол: на ім — уся вясковая гаспадарка: баран, казёл, дзве казы, сабака, гусі, качкі, куры і... аголены мужык.

— А чаму аголены? — пытаюся я ў сталага веку невысокай жанчыны, аўтаркі гэтай незвычайнай калекцыі.

— А не ведаю. Прачнулася неяк раніцою і думаю: "Чаго мне хочацца?" І раптам зразумела: зляпіць аголенага мужыка. І зляпіла.

— А што ж вы яму трусы "дамалявалі". Голы — дык голы.

— Ды сорамна зрабілася...

Гісторыя лепельскай майстрыхі Зінаіды Ляйко простая і здзіўляючая. Маляваць і ляпіць пачала з васьмі гадоў

— Бацька альбо маці таксама гэтым займаліся?

— Ніколі. Бацька ўсё мог рабіць па гаспадарцы, а ў маці — звычайныя жаночыя клопаты. Калі мне было восем, я ўпершыню прынесла дадому гліну і пачала ляпіць. Бацька папытаўся, каго я ляплю.

"Карову і пастуха" — кажу. "А-а, нуну, ляпі". Вось і ўсё. З тае пары і ляплю.

Дзве жанчыны побач слухаюць, усміхаюцца.

— Гэта мае хросныя маці, — гаворыць Зінаіда Уладзіміраўна. — Вольга Жукава, дырэктар Лепельскага Дома рамёстваў і майстар клуба "Скарбонка" Валянціна Ганчар.

Вольга Жукава: "Зінаіда Уладзіміраўна ніколі не выстаўляла свае творы. Я прыйшла да яе і ўбачыла дываны і партрэты, напісаныя акварэллю на паперы, без рамак, без шкла. Бацька, маці, родныя... Афармілі мы яе творы і даслалі на абласную выставу. Там іх заўважылі спецыялісты. Так і пачалося. Жанчына пачала прыходзіць да нас у клуб. Мы там збіраем майстроў, каб яны мелі магчымасць сустрэцца і паразмаўляць адзін з адным. Іншы раз удаецца вывезці творы на выставу, каб майстры адчулі, што іхняя творчасць патрэбная людзям. Аднойчы Зінаіда Уладзіміраўна ўбачыла ў клубе кераміку і кажа: "Я таксама так магу". Мы здзівіліся, а яна прынесла нам сабаку. І зараз стаіць ён у клубным музеі..."

— Што вы мяркуеце зляпіць у бліжэйшы час?

— Лася.

— Чаму лася?

— Ішла неяк па дарозе і пабачыла яго. Схавалася за дрэвам і намалявала. Прыгожы такі, вялікі, карычневы з жоўтым адценнем.

— А дзе ўзялі паперу, аловак?

— А я заўжды бяру з сабою альбомчык. Цяпер буду ляпіць гэтага лася.

— Вялікі ён будзе?

— Не, невялічкі. Толькі абпаліць яго трэба добра.

— А дзе абпальваеце?

— Іншы раз у духоўцы на кухні, іншы раз і ў Доме рамёстваў у печы. А яшчэ збіраюся трох коцікаў зрабіць. Адзін на калодачцы будзе ляжаць, а два знізу сядзець. Але пакуль гліну ніяк не знайду...

Глядзіць на мяне майстрыха Зінаіда Ляйко. Вочы чыстыя, твар адкрыты. Беларуская сялянка, якую Бог пацалаваў у руку. А на стале стаяць голы мужык і ўсе хатнія жывёлы з яе прысядзібнай гаспадаркі. А на самым краі стала — кот, вусы якога зроблены са шчоткі для адзення.

Падчас конкурсу на лепшую ганчарную форму — удзельнікам было дадзена ўсяго дваццаць хвілін — нават сталых майстроў уразіў аднарукі майстар з вёскі Гарадная Столінскага раёна Мацвей Пячонка.

Я чуў, як два ветэраны (абодва займаюцца ганчарствам ужо 40 гадоў!) абмяняліся меркаваннямі, калі Мацвей Якаўлевіч на дваццатай, кантрольнай хвіліне зняў з кола другі збан:

— Як ён цэнтруе адной рукой?

— Пра гэта ведае толькі ён.

Пасля таго як майстар вызваліўся, я падышоў да яго:

— Чаму вы зрабіліся ганчаром?

— А кім жа я мог стаць, калі ў нас у Гарадной ганчарнае кола ў кожнай хаце? Я працую з глінай пачынаючы з шасці гадоў. Ужо, лічы, пяцьдзесят разоў буслы прыляталі...

— А хто, на вашу думку, возьме першае месца?

— Хто ж апрача мяне? — здзівіўся ён.

Забягаючы наперад, адзначу, што майстар не памыліўся.

На розныя галасы над прасторым стадыёнам звіняць званочкі івянецкага майстра Уладзіміра Сасноўскага і дзіўныя двухкамерныя — голас і падгалосак — акарыны Людмілы і Сяргея Шчэрбаў з Пастаў. Хто б мог падумаць, што гліна здольная так спяваць!



Свята набірала вышыню, дзе чыстымі глінянымі галасамі спявалі і зязюлька, і певень. І старыя дрэвы парку, які хутка будзе адноўлены, і здзіўленая рака Ула слухала даўно забытыя мелодыі...

Напрыканцы другога дня са сцэны, пабудаванай тут жа, на стадыёне, для канцэртнай праграмы "Ганчарнага кола", старшыня аўтарытэтнага журы доктар навук Яўген Сахута ад імя сваіх сяброў па "судзейскай калегіі" ( а ў яе ўваходзілі вельмі паважаныя людзі, такія, як загадчыца аддзялення мастацкай графікі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта, дацэнт Леся Рамаленка) назваў імёны пераможцаў Першага рэспубліканскага ганчарнага свята. У шасці намінацыях іх было больш за дваццаць. Гэта былі не толькі асобы, але і музеі, Дамы рамёстваў, калектывы. Узнагароды — мільён рублёў, каштоўныя падарункі, ганаровыя граматы і дыпломы — уручаліся за лепшую ганчарную форму, калекцыю цацак і этнаграфічнага посуду, за працяг традыцый беларускай керамікі, за творчы дэбют, за прапаганду старажытнай творчасці, лепшы экспазіцыйны твор. Наспеў час вымавіць: "Перамагло ганчарства!" І таму я назаву дзве галоўныя постаці. Званне Майстра-ганчара года і Майстра-ганчара года глінянай цацкі атрымалі Мацвей Пячонка з "ганчарнай" вёскі Гарадная Столінскага раёна і Сяргей Шчэрба з Паставаў.

Трэба было бачыць радасць гледачоў падчас цырымоніі ўзнагароджвання і твары пераможцаў, каб зразумець: свята адбылося.

І, безумоўна, дзякуй арганізатарам: Міністэрству культуры, Віцебскаму ўпраўленню культуры, Фонду Сораса, Бешанковіцкаму райвыканкаму, бачэйкаўцам, усім фундатарам за нараджэнне і адраджэнне новага і такога старажытнага свята на віцебскай зямлі.

"Хай вечна круціцца ганчарнае кола! Прыгажосць усё ж такі ўратуе свет!" — такімі словамі поўніўся гэты сонечны дзень у Бачэйкаве. А я хацеў бы скончыць гэтую справаздачу аб Першым рэспубліканскім свяце "Ганчарнае кола-96" словамі лепельскай майстрыхі з сімвалічным прозвішчам, Валянціны Ганчар: "Я ўсё ўмею". Так спакойна і ўпэўнена сказаць гэтыя словы можа толькі чалавек, які стварае свет паводле законаў, дадзеных нам небам, чалавек адной з самых старажытных і самых неабходных прафесій на зямлі — ганчар. Так пра сябе і сваю справу мог сказаць кожны з трыццаці ўдзельнікаў свята "Ганчарнае кола-96".

**Навум ЦЫПІС**
**Фота Яўгена КАЗЮЛІ (БелТА), Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ**

***Валянціна КІРЫЛАВА, культуролаг, выканаўчы дырэктар Віцебскага аддзялення Фонду Сораса і сузаснавальнік Беларускага аддзялення Фонду.***

— У кнігах з Бачэйкава, якія захоўваюцца ў Нацыянальным беларускім архіве, адлюстравана старажытная філасофія існавання Бачэйкава: Гармонія — Карысць. Уладальнікі маёнтка Цеханавецкія — адзін са слынных беларускіх родаў — не аддзялялі прыгажосць ад працы. Хараство павінна прысутнічаць ва ўсім. І гэтая філасофія аказалася такой моцнаю, што жыве тут ужо сотні гадоў і дайшла да нас. Прайдзіцеся па вёсцы і вы ўбачыце ў хатах, у дварах, у садах і гародах высокі ўзровень парадку, гаспадарчай прыгажосці.

Мы шукалі для свята галоўную ідэю, якая была б здольная аб'яднаць карысць і прыгажосць. Мы ўбачылі ў стварэнні ганчарнага круга вечны кругавы рух жыцця. У ганчарным мастацтве адлюстроўваецца ўсё, што чалавек робіць на зямлі. У Рыгора Барадуліна ў яго вершах ёсць такое азначэнне: "ганчарнае кола зямлі". З гэтага кола сыходзяць у жыццё цудоўныя стварэнні Сусвету — людзі.

У XVIII стагоддзі ў Бачэйкаве адбыўся фэст.Былі сабраныя майстры і іхнія лепшыя творы. Так нарадзілася традыцыя. І так цудоўна, што сёння яна адрадзілася. Такія святы, такія сустрэчы фармуюць чалавечыя душы. Вы самі бачылі, якія твары былі ў людзей падчас свята...





***У якасці ганаровага госця на "Ганчарнае кола-96" быў запрошаны народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін. Ён прыехаў з жонкай і ўнучкай. І так добра ўпісвалася ягоная сутулаватая постаць у шматколернасць свята, так натуральна і важка глядзеўся ягоны твар з іранічнымі і сумнымі вачыма, што выказвалі любоў і боль да гэтай шматпакутнай зямлі. І маленькая постаць ягонай унучкі Дамінічкі, названай у гонар маці паэта, таксама была сімвалічнай побач з дзедам на гэтым свяце Адраджэння: кола часу, кола вечнага жыцця, кола памяці — і мноства ганчарных колаў навокал...***

**Рыгор Барадулін:**

— Вельмі добра, што свята "Ганчарнае кола" адбываецца ў Бачэйкаве, у знакамітым фамільным гняздзе Цеханавецкіх. Гэта сімвалічна. Гліна — гэта зямля. Бог зляпіў чалавека з гліны і ўдыхнуў у яго жыццё. Бог быў першым ганчаром. Гэта боскае наканаванне. На гэтай зямлі ганчарствам займаліся з даўніх часоў. Ганчары бліжэй за ўсіх стаяць да Бога, бо яны таксама з гліны ствараюць свой свет. Добра, што свята атрымалася маштабным, сапраўды рэспубліканскім. Добра, што людзі змаглі пабачыць увесь працэс рамяства-мастацтва, якое мае тысячагадовую гісторыю. Першы гаршчок на зямлі — гэта быў першы крок-прарыў да цывілізацыі. Калі б не ганчары, мы б засталіся ў пячоры і пілі б ваду з далоні.

І вось мы бачым іх, жывых майстроў, якія ствараюць цуд і таямніцу проста на нашых вачах, і разумеем, што сувязь часоў не перапыняецца, што кола жыцця круціцца, як і ганчарнае. Гэта галоўнае. Я рады, што гэтае свята адбываецца на зямлі маёй роднай Віцебшчыны.

Хацелася б падкрэсліць, што гэтага свята не было б без падтрымкі Фонду Сораса. Я б хацеў ад свайго імя падзякаваць прадстаўнікам гэтага Фонду ў Віцебску.

Гэтае свята павінна стаць пастаянным і як свята, і як актыўная супрацьвага ўсяму таму, што робіцца зараз для знішчэння нашых нацыянальных і культурных каранёў, нашага нацыянальнага імунітэту. І добра, што ўсё гэта адбываецца не ў Мінску, не на асфальце, а тут, у адным з культурных гнёздаў старажытнай культуры, сярод гэтых дрэваў на беразе Улы, на траве, на зямлі сапраўдных беларускіх патрыётаў — Цеханавецкіх.

ФЭСТ

# ФАЛЬКЛАРЫСТЫ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

***Напрыканцы ліпеня ў нідэрландскім горадзе Брунссуме па ініцыятыве і пад патранажам ЮНЕСКО і Міжнароднага савета па правядзенні фальклорных фестываляў і традыцыйных мастацтваў (КІОФФ) праходзіла Першая сусветная фальклярыяда, у якой удзельнічалі прадстаўнікі розных кантынентаў. Сваімі ўражаннямі аб фестывалі з карэспандэнтам "Культуры" дзеліцца начальнік упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Тадэвуш Стружэцкі.***

**— Якое значэнне гэтая падзея можа мець для сусветнай культуры?**

— Найперш яе значэнне ў тым, што тут выступала шмат цікавых творчых калектываў, фактычна былі прадстаўлены ўсе кантыненты, усе краіны, якія з'яўляюцца членамі Міжнароднага Савета па правядзенні фальклорных фестываляў і традыцыйных мастацтваў (КІОФФ). Нягледзячы на тое, што прыкладна трэцюю частку ўдзельнікаў фестывалю складалі прафесійныя калектывы з высокім творчым узроўнем, з дакладнай тэхнікай выканання, знайшлося шмат і яркіх прыкладаў дасканалай дэманстрацыі аўтэнтычнага фальклору. Асабліва гэта характэрна для краін Лацінскай Амерыкі, Інданезіі, краін Індакітайскага паўвострава, калектывы якіх найбольш дакладна адлюстроўвалі свае традыцыі і абрады. Трэба адзначыць, што фальклярыяда прадэманстравала вельмі высокі ўзровень арганізацыі. Атмасфера, якая тут панавала, зачароўвае. Уявіце сабе, што ў невялічкім горадзе, дзе жыве прыкладна 30 тысяч жыхароў, працуе шэсць вялікіх канцэртных пляцовак і адначасова штодзень канцэрты наведвае больш за 10 тысяч гледачоў. І так дванаццаць дзён запар, а ў некаторыя дні адбывалася і па два-тры канцэрты. Нам было б цяжка правесці такое свята на Беларусі: наша аўдыторыя не заўсёды падрыхтавана да ўспрыняцця такога матэрыялу. Усё ж такі гэта не проста канцэрты эстрадных песень ці духавых аркестраў, а адметны матэрыял, які патрабуе пэўнага падрыхтоўчага ўзроўню гледачоў. Тое, як прымалі калектывы з розных краін, — сведчыць аб высокім узроўні культуры і творчай актыўнасці ў Нідэрландах. Варта дадаць, што на фальклярыядзе сабраліся вядучыя спецыялісты ў гэтай галіне больш як з 60 краін свету, самі сустрэчы, самі дыскусіі, абмеркаванні, канешне, былі карыснымі для ўсіх удзельнікаў. А тое, што кожны з удзельнікаў фестывалю змог паглядзець усе выступленні калектываў, канешне, узбагаціла агульны вопыт, дало магчымасць пераняць лепшае. Нашы ўдзельнікі — артысты ансамбля "Крупіцкія музыкі" — кожны вечар не проста адпачывалі, а ішлі паглядзець канцэрт сваіх калег, іншыя калектывы, таму што гэта было ў прафесійным плане вельмі цікава. За некалькі дзён можна было пазнаёміцца з дзесяткамі афіцыйных прадстаўнікоў краін, кожны калектыў мог пасябраваць з дзесяткамі гуртоў з розных краін. Спадзяюся, пасля фальклярыяды ўзмоцніцца ўзаемаабмен паміж калектывамі. Так, нашы "Крупіцкія музыкі" атрымалі некалькі запрашэнняў для ўдзелу ў розных міжнародных фестывалях, і мы вылучылі асобныя калектывы, якія ў бліжэйшым будучым мяркуем запрасіць на беларускія фестывалі.



**— На якіх выніках фестывалю яшчэ можна засяродзіць увагу?**

— Фальклярыяда будзе мець свой далейшы працяг. У час падвядзення яе сёлетніх вынікаў адбылася ўрачыстая перадача эстафеты з Галандыі ў Японію. Такім чынам, другую фальклярыяду запланавана правесці ў Японіі ў 2000 годзе. Улічваючы тое, як да сёлетняга фестывалю ставілася дэлегацыя Японіі, можна гарантаваць, што наступная фальклярыяда ў гэтай краіне пройдзе яшчэ на больш высокім узроўні. Адтуль у Галандыю прыехалі моцная афіцыйная дэлегацыя, цікавыя творчыя калектывы, вялікая здымачная група Японскага тэлебачання, працаваў іфармацыйна-культурны цэнтр Японіі.І гэта рабілася не толькі дзеля таго каб паказаць сваю культуру, але і каб ужо зараз прыцягнуць увагу да будучай фальклярыяды.

Для беларускай дэлегацыі паездка ў Галандыю была таксама карыснай. Мы часта ў рэспубліцы праводзім падобныя фестывалі, але, на жаль, такіх магчымасцей не маем. Напрыклад — за адзін дзень зманціраваць, сабраць прыгожы амфітэатр на 10 тысяч месцаў... Разам з гэтым амфітэатрам літаральна за некалькі гадзін пабудаваць прыгожыя сцэнічныя пляцоўкі, гандлёвыя палаткі, дзе можна было пакарміць за паўгадзіны амаль 3000 чалавек. Сказваецца і адпаведнае тэхнічнае абсталяванне, і спрактыкаванасць людзей. Павучальнай была і рэклама. Па Галандскім нацыянальным тэлебачанні быў выдзелены спецыяльны канал, які з раніцы да глыбокай ночы перадаваў інфармацыю аб фестывалі. У кожнай газеце штодня давалася праграма фестывалю і вялікія справаздачы аб прайшоўшых мерапрыемствах. Варта адзначыць, што глядач быў інтэрнацыянальны, акрамя галандцаў было многа французаў, немцаў, людзей з іншых краін, людзі спецыяльна прыязджалі на гэты фестываль не толькі каб адпачыць, але і паглядзець на выступленні гуртоў. У гэтым і праяўляецца унікальнасць фальклярыяды.

**— Калі параўноўваць замежныя фальклорныя фестывалі і тыя, што праводзяцца ў нас, што ў іх агульнага і чым яны адрозніваюцца? Ці ёсць прынцыповыя разыходжанні ў іх правядзенні і як гэта праявілася на фальклярыядзе?**

— У іх прасцей і лягчэй вырашаюцца арганізацыйныя пытанні. Што тычыцца творчага боку, то, на мой погляд, фальклярыяду можна было правесці цікавей. Напрыклад, і адкрыццё, і закрыццё мы б зрабілі больш удала. Той унікальны матэрыял, тыя унікальныя калектывы можна было б прадставіць больш цікава і прыгожа. Але ўрачысты парад, які праходзіў на вуліцах горада і дзе прысутнічала больш за 150 тысяч чалавек, — гэта нам не пад сілу, тут павінна быць такая падрыхтоўка, павінна быць адпаведная фестывальная атмасфера. Я неаднойчы гаварыў, што фестываль не можа праводзіцца на голым месцы. Павінна быць адпаведная традыцыя і аўдыторыя. Мы гаварылі пра гэта і ў Паставах, і на Пеўчым полі на Нарачы — там, дзе ёсць традыцыя, там дзе ёсць падрыхтаваная аўдыторыя, дзе яе складаюць не выпадковыя людзі, а тыя, хто спецыяльна ідзе паслухаць фальклорныя гурты — гэта гарантыя поспеху. Што тычыцца арганізацыйных пытанняў, нам іх вырашаць значна цяжэй. Для Рэспублікі было б цудоўна мець адзін такі перасоўны амфітэатр, каб можна было яго перавезці ў другі горад. Ён бы сябе за кароткі час акупіў, бо далёка не кожны горад мае адпаведную сцэнічную пляцоўку.



**— Заўсёды ўзнікаюць праблемы з размяшчэннем гасцей, харчаваннем...**

— Што тычыцца размяшчэння ўдзельнікаў, мне здаецца, мы ў сябе крышку ўскладняем. За мяжой да гэтага адносяцца значна прасцей. Там прыязджаюць дэлегацыі і іх пасяляюць у звычайнай школе, ставяць ложкі, жывуць па дзесяць — дванаццаць чалавек. Усё нармальна, ніхто не скардзіцца і ні ў кога не застаецца нейкага горкага асадку. А ў нас бываюць выпадкі, калі ўдзельнікі не задаволены двух-трохмеснымі нумарамі ў гасцініцы. Што тычыцца харчавання, то ў нас яно не горшае, іншае пытанне — тэхнічныя магчымасці, якія дазвалялі б там гэта рабіць хутчэй і, можа, больш якасна. Канешне, заўсёды ўсё ўспрымаеш з пэўнай крытыкай.

**— Ці такія ж у іх крыніцы фінансавання? Ці рэальна правесці аналагічны праект на Беларусі?**

— Нам падобны фестываль пакуль не пад сілу. Для гэтага патрэбны вялікія грошы. Асабліва гэта тычыцца рэкламы. Дарэчы, там яна дае добры прыбытак. Фестывалі там самі сябе акупляюць, на ўсе канцэрты падчас фальклярыяды прадаваліся квіткі коштам ад 10 да 15 долараў. Калі прыкідваць колькасць гледачоў, якія наведвалі канцэрты, мяркую, працэнтаў 60 выдаткаў акупілася за кошт наведнікаў канцэртаў. Было багата фірм, якія выступілі спонсарамі.Напрыклад, фірмы, якія спецыялізуюцца на продажы піва. За 12 фестывальных дзён, гаворачы па-нашаму, яны, пэўна, выканалі гадавы план рэалізацыі прадукцыі.

**— У нас звычайна фестывалі праводзяцца ў шчыльным супрацоўніцтве з мясцовымі ўладамі, і ад іх шмат што залежыць.**

— У гэтым плане адносіны да фальклярыяды кіраўніцтва, членаў муніцыпалітэта, бургамістра горада Брунссума вельмі павучальныя. Фактычна бургамістр і дняваў і начаваў усе дванаццаць дзён на фестывалі і як афіцыйны прадстаўнік, і проста як жыхар горада. Адносіны вельмі цёплыя і шчырыя, кожны адчуваў сябе, як у сваёй краіне. Прабачце, нам гэтага не заўсёды хапае. Не кожны наш мэр можа "снізайці" да ўдзельнікаў. Бываюць прыклады, калі старшыня райвыканкама не знаходзіць часу нават сустрэцца з імі, тым больш вось так па-простаму, шчыра аказаць нейкую дапамогу. Што таксама паказвае ўзровень культуры. Там, дзе ёсць зацікаўленае стаўленне кіраўніцтва горада, раёна, усё вырашаецца намнога прасцей.

**— Здаецца, асаблівую ўвагу трэба звяртаць на рэжысуру такіх мерапрыемстваў. Справа ў тым, што фальклорны фестываль — гэта не толькі адраджэнне песні, танца, але і адраджэнне пэўных аспектаў архаічнага менталітэту, свядомасці. Чалавек павінен не толькі назіраць за танцам, але і ўдзельнічаць у ім. У рэжысуры абавязкова павінны быць элементы, якія ўключаюць гледача, слухача ў кантэкст фестывалю (гульні, танцавальныя нон-стопы і г.д.), адпаведна павінна складацца праграма выступленняў. Ці ўсведамляюць гэта на Захадзе і наколькі актыўна там працуюць у гэтым накірунку?**

— У гэтым плане фальклярыяда не паказальная. Вялікая колькасць удзельнікаў — 3000 чалавек, 62 краіны. Знайсці кожнаму калектыву, кожнаму ўдзельніку фестывалю сваё сцэнічнае месца не так проста. Па-другое, фальклярыяда мела не толькі культурны, але і палітычны характар. Яна праводзілася пад эгідай ЮНЕСКО і КІОФФ, такое буйнамаштабнае мерапрыемства праводзілася ўпершыню. Калі казаць больш канкрэтна — мэтай ЮНЕСКО і КІОФФ было проста прыцягнуць увагу да дзейнасці міжнародных арганізацый і праз фальклор паказаць іх ролю ў культуры. Таму глыбокіх і цікавых знаходак у прэзентацыі фальклору, мне здаецца, не было, ды і мэт такіх не ставілася. Мы, як спецыялісты, абмяркоўвалі пытанне аб тым, што на міжнароднай і першай сусветнай фальклярыядзе павінен дэманстравацца ў першую чаргу самабытны самадзейны фальклор. Многія ж краіны проста прадставілі сувенірныя калектывы. Даходзіла нават да казусаў, калі перад канцэртам расіян выступаў калектыў з Лацінскай Амерыкі і дэманстраваў тыя ж трукі, якія прыйшлі з Расіі. І расійская дэлегацыя была ў роспачы, бо калектыў з Лацінскай Амерыкі фактычна прадубляваў іх праграму. Канешне, у такой сітуацыі ўзнікае пытанне, што ж такое фальклор і ці трэба цягнуць на сусветную фальклярыяду звычайны стандартны сувенірны калектыў, які не мае нацыянальных адметнасцяў? Таму мы спадзяемся, што ў час падрыхтоўкі да будучай фальклярыяды будзе больш дакладны падбор калектываў. Тут павінны праявіць прынцыповасць арганізатары наступнай фальклярыяды. З другога боку, больш адказна трэба ставіцца да гэтага пытання і краінам, якія накіроўваюць творчыя дэлегацыі. Напрыклад, Расія прыслала прафесійны калектыў "Нацыянальны тэатр балета". Гэта прыгожы, вельмі тэхнічны калектыў, але ён значна далей ад рускага фальклору, чым, напрыклад, нашы "Крупіцкія музыкі" ад свайго беларускага. Таму гледачы адразу заўважылі, дзе прафесійны калектыў, а дзе самадзейны. Калі параўноўваць выступленне нашых "Крупіцкіх музыкаў" з іншымі гуртамі, то ён, канешне, не паказваў яркага тэмпераменту, як гэта рабілі калектывы з іншых краін, ён вельмі чысты, акуратны, публіка яго ўспрымала стрымана, але цёпла. Спецыялісты ж адзначалі, што "Крупіцкія музыкі" больш дакладна выражаюць фальклор, чым іншыя прафесійныя калектывы. Калектыў прадэманстраваў featured рознабаковую праграму (танцы, песні, інструментальныя нумары), народныя музычныя інструменты, выдатныя сцэнічныя касцюмы. Арганізатары фальклярыяды прасілі зарыентавацца пры падборы калектываў, але некаторыя краіны паставілі іх перад фактам. Таму варта на будучае стварыць міжнароднае кампетэнтнае журы, якое б вызначыла, што пэўныя фальклорныя калектывы з'яўляюцца асноўнымі ўдзельнікамі фальклярыяды, а іншыя калектывы, якія дэманструюць другасны фальклор, а можа, наогул, не фальклор, з'яўляюцца ганаровымі гасцямі фестывалю. Каб можна было ўвесці градацыю і каб кожны калектыў меў сваё месца. Таму што ўсё ж сэнс фальклярыяды — прадэманстраваць здабыткі фальклору, а не проста паказаць яркае цікавае відовішча. Мы пра гэта гаварылі, і я думаю, што да наступнай фальклярыяды гэта будзе ўлічана. Так што ў прафесійным плане можна многае зрабіць больш цікава. Што тычыцца рэжысуры, то там ёй значна менш на-даюць увагі, чым мы, і адкрыццё і закрыццё было зроблена стандартна, хоць і былі цікавыя знаходкі. Напрыклад, падчас фестывалю адкрыліся некалькі цікавых скульптурных кампазіцый, прысвечаных фестывалю, адбылася ўрачыстая перадача эстафеты фальклярыяды, былі нядрэнныя блокі сумесных выступленняў, якія паказвалі родпасны фальклор розных краін. Варта ўлічваць, што фестывалі, якія праводзяцца пад эгідай КІОФФ, маюць пэўныя стандарты. Адкрыццё фестывалю — абавязковы марш-парад удзельнікаў фестывалю, афіцыйныя прыёмы ў муніцыпалітэце. Умовы прыёму калектыву — размяшчэнне, харчаванне, невялікія кішэнныя выдаткі. Большасць краін такія фестывалі праводзяць як відовішчнае мерапрыемства. Арганізатары імкнуліся насычаць праграму калектывамі з Афрыкі, Амерыкі, якія стараліся перш за ўсё знешне ўразіць, прыцягнуць увагу гледачоў.



**— Дзякуй за гутарку. Спадзяемся, гэтыя заўвагі будуць улічаны пры правядзенні Другой сусветнай фальклярыяды.**

ФЭСТ

# "ХАЧУ, КАБ ГЭТЫЯ ВЯСЁЛЫЯ БЕЛАРУСЫ ЖЫЛІ ПОБАЧ З МАІМ ГОРАДАМ"

***Беларусь на Першай сусветнай фалькларыядзе прадстаўляў наш фенаменальны калектыў "Крупіцкія музыкі". На пытанне карэспандэнта "Культуры" адказвае мастацкі кіраўнік калектыву Уладзімір ГРОМ.***

**— Вашыя агульныя ўражанні пра фестываль, у чым спецыфіка выступленняў на такіх мерапрыемствах?**

— На фалькларыядзе мы ўбачылі шмат знаёмых, з якімі сустракаліся на мінулых фестывалях. Гэта была добрая школа для нас. Тут выступалі аўтэнтычныя і стылізаваныя гурты. У нас была магчымасць паглядзець на агульную тэндэнцыю развіцця сусветнага фальклору. Калі арыентавацца на свае інтуітыўныя законы, мы адчуваем стылістыку. Адна справа — чыстая аўтэнтыка, другая — сцэна, у сцэны свае законы. Калектыву прыходзіцца браць пэўныя свае нацыянальныя асаблівасці і на іх базе рабіць канцэртную праграму. Прыблізна палова ўдзельнікаў складалася з прафесійных калектываў. Напрыклад, прафесіяналы былі з Філіпін, Чылі. Расія прадставіла прафесійны калектыў, які два гады рыхтаваўся менавіта да гэтага фестывалю. Былі розныя праграмы, не абышлося і без вельмі слабых выступленняў. Падчас фалькларыяды можна было навучыцца розным нацыянальным танцам, дзеля гэтага нават працавалі начныя дыскатэкі. Што тычыцца нашага выступлення, то ў нас атрымалася пэўная накладка — першапачаткова меркавалася, што паедзе толькі наш аркестр (у нас даволі вялікі калектыў). Усё вызначылася толькі ў апошні момант, і мы былі не зусім падрыхтаваны (з шасці танцавальных пар удзельнічалі толькі чатыры). Адпаведна і канцэртная праграма была разлічана на аркестр, асноўнае наша выступленне было ў рэнесансным храме. Калі арганізатары паглядзелі нашу праграму, то перавялі нас толькі на пляцоўкі. Праграма ў нашага калектыву была вельмі разнастайнай, галоўнае, што нас адрознівала ад іншых, — гэта тое, што мы ні разу не паўтарылі свае выступленні.

**— Ці адрэагавала на вашы канцэрты прэса?**

— Былі тры рэцэнзіі. Водгукі вельмі добрыя. Прэса адзначала, што, нягледзячы на тое, што Беларусь далёка ад Ірландыі, аднак, нашыя краіны маюць шмат агульнага ў фальклоры. Так, мы маем нумары ў стылі кантры. Адзін з рэцэнзентаў адзначаў, што ён хоча, каб "гэтыя вясёлыя беларусы жылі побач з маім горадам". Мы ўсё ж такі чакалі, што будзе больш кантактаў паміж гуртамі. Арганізатары, відаць, хацелі іншага — зарабіць як мага больш грошай. Мяркую, што яны зрабілі добра — гэта і перапоўненыя залы на платных канцэртах, і рэклама. Сыграла сваю ролю і тое, што фестываль праходзіў блізка да мяжы з Бельгіяй і Германіяй — сярод публікі было многа замежнікаў. Адчувалася атмасфера фалькларыяды, кожнаму хацелася паказацца лепш, было пэўнае пачуццё спартыўнага спаборніцтва.

**— Чым адрозніваецца слухач, перад якім Вам давялося выступаць, ад нашага, ці ёсць гэтае адрозненне наогул?**

— Канешне. Колькі краін, нацый, столькі і розных слухачоў, абавязкова трэба ведаць публіку краіны, у якой выступаеш. Тое, што падабаецца адным, можа не спадабацца іншым. Вядома, наша культура блізкая да еўрапейскіх культур. Але на фалькларыядзе рабіўся акцэнт на Лацінскую Амерыку, Афрыку. Былі вельмі цікавыя калектывы. Уражвалі экзатычныя групы з Новай Зеландыі, са Шры Ланкі: дастаткова было паглядзець на іх твары, адзенне. Падзеі здымалі чатыры тэлекампаніі — галандская, французская, нямецкая, японская.

**— На працягу апошніх гадоў вы часта выязджаеце за мяжу. Ці можна прасачыць агульную тэндэнцыю ў развіцці сусветнага фальклору? Расце ці падае цікавасць да яго? Можа адбываецца тэндэнцыя яго сувенірызацыі, нівеліроўкі?**

— Так, гэтая праблема адчуваецца, праявілася яна і на фестывалі. Тут было мала аўтэнтыкі, больш сцэнічных стылізацый. Што тычыцца цікавасці да фальклору, то яна не знікае. Хаця адбываюцца негатыўныя працэсы. Напрыклад, што тычыцца краін Усходняй Еўропы: як бы ні лаялі тыя "камуністычныя" часы, раней былі пэўныя патрабаванні, крытэрыі ў адборы гуртоў для выезду за мяжу. Цяпер замежжа запаланілі фальклорныя падробкі, трэцеразрадныя калектывы. У Францыі, Германіі — па ўсёй Еўропе на кожным кроку сядзяць "калектывы" і зарабляюць грошы. Таму за мяжой цікавасць да нашага фальклору ў пэўнай ступені наогул падае, проста надакучвае. Але калі бачна, што гэта добра зроблена, поспех усё роўна гарантаваны. Такім калектывам няма чаго баяцца.

**— Часам даводзіцца чуць, што ў нашых сродках масавай інфармацыі надаецца зашмат увагі фальклору, што яго актуальнасць наогул падае.**

— Няпраўда. Нацыянальная культура — аснова класікі, сучаснай культуры. Гэта нашыя карані. Апошнім часам з'явілася многа новых цікавых калектываў. Вы іх маглі ўбачыць у Паставах, памятаеце, колькі там было самародкаў? Адна справа, аўтарская творчасць, іншае — што распрацоўвалася стагоддзямі. Што тычыцца нашых сродкаў масавай інфармацыі, то лічу, што тут мала аддаецца ўвагі традыцыям нашай культуры. Пэўны час быў усплёск. А сёння... шмат смецця — часам немагчыма ўключаць тэлевізар ці радыё. Колькі ўжо казалася пра тыя ж "Вячоркі"... Я мяркую, што калі гэта Рэспубліканскае тэлебачанне ці радыё, то тут павінна быць усё лепшае, а так уключаюць многа сурагату. Нам абавязкова трэба паказваць у праграмах лепшыя гурты. У нас ёсць шэсць этнічных рэгіёнаў, якія прынцыпова розныя. Гэта розніца і ў строях, і ў мелодыях, і ў манерах. Добра, калі гурт працуе ў сваім рэгіёне і выкарыстоўвае свой матэрыял.



**— А ў чым спецыфіка вашага калектыву?**

— Наш калектыў збольшага эксперыментальны — у нас больш за сто лёгкіх інструментаў, і не проста калекцыя — усё гэта выкарыстоўваем. Я сам больш за дзесяць гадоў іграю на дудзе. Два гады таму мы працавалі з нашай старой беларускай класікай. Зараз у нас многа беларусаў жыве ў Амерыцы, Англіі, Аўстраліі, ім патрэбна наша песня. У Германіі ў касцёле мы аднойчы поўнасцю адпелі месу. Удзельнічалі ў вялікай колькасці радыё- і тэлеперадач, фільмаў.

**— Падчас згаданага пастаўскага фестывалю фанаграмы з запісамі вашага гурта і "Палаца" фактычна поўнасцю трымалі ўсю публіку, выклікалі больш актыўную рэакцыю, чым многія з запрошаных гуртоў, якія выступілі тут. Зайздрошчу галандцам, якія маглі не толькі чуць, але і бачыць...**

— Галандцы нам казалі, што выступленні іншых гуртоў яны маглі глядзець 2-3 разы, на выступленні ж нашага калектыву можна хадзіць бясконца. Бо на кожнай сцэне нават той самы нумар адпрацоўваем зусім па-іншаму — новыя абставіны, новы настрой. Кожны нумар праходзіць па-рознаму. Глядач не паспявае стамляцца.

**— Якія з замежных паездак больш запомніліся?**

— У 1984 годзе быў вельмі моцны фестываль у Югаславіі. У Італіі на фестывалі замест дваццаці запланаваных дзён нас пратрымалі паўтара месяца — нас, гасцей з Кітая, Нацыянальны балет з Гаіці. Зараз запрашаюць штогод. Мы добра выступілі ў Маскве, у Крамлёўскім палацы, на выставе ДНГ, многа разоў былі ў Францыі, Германіі, Галандыі...

**— Сёння вядома, што беларускі балет — адзін з лепшых у свеце. Тэатр, нашыя акцёры ў Лондане вучаць англічан, як трэба іграць Шэкспіра. Як зрабіць, каб усім было відавочна. што наш фальклор не саступае народнай творчасці іншых краін? На Першай фалькларыядзе не было конкурсных праграм, прызоў, якія дакладна маглі вызначыць самых лепшых...**

— Так, ад гэтага адмовіліся. Наш музей поўнасцю застаўлены прызамі, раней гэта шырока практыкавалася. На гэтым фестывалі ад такіх узнагарод адмовіліся, бо тут і мэты і задачы іншыя. Тут спрацоўвала і палітыка. Я лічу, што мы многа зрабілі ў галіне народнай дыпламатыі, бо тое, што нас пазнаюць — мяняе стаўленне і да краіны. Я ўспамінаю першыя сустрэчы з тымі ж галандцамі ў тыя часы. Як яны нас успрымалі! Яны казалі проста: "Мы вас раней баяліся". У мяне ёсць сябра ў гановерскай оперы, ён увесь час ездзіць спецыяльна на нашыя выступленні. У многіх ёсць уражанне, што паміж Варшавай і Масквою нічога няма. Але ў нас вельмі самабытная культура, адна з унікальных сярод славянскіх. На тэрыторыі сучаснай Беларусі калісьці было пятнаццаць балетных труп. Узяць таго ж Казлоўскага — бацьку рускага раманса, настаўніка Агінскага...

**— Ці існуе ў свеце агульнае інфармацыйнае поле ва ўзаемастасунках паміж фалькларыстамі, ці існуе свой цэх, сістэма ацэнак прафесіяналізму, ці ёсць свае легенды?**

— Так, падчас фестывалю ў Галандыі мы наведвалі выступленні калег, абменьваліся ўражаннямі, вопытам. Асаблівае ўражанне пакідаюць калектывы з Лацінскай Амерыкі.

**— Што б Вы пажадалі фалькларыядзе 2000-га года, якіх змен?**

— Хацелася б больш жывых зносін, каб было больш умоў для кантактаў. Улічваючы колькасць удзельнікаў, можна зразумець і галандцаў. Такія фестывалі, безумоўна, неабходныя —дзеля падтрымкі кантактаў. Прысутнічае, канешне, і палітычны момант — калі сустракаюцца людзі розных нацый, гэта вельмі важна для ўсіх.

# НОСЬБІТЫ ТРАДЫЦЫЙ — НА МАГІЛЁЎШЧЫНЕ

Кожнае свята мае рытуальнае значэнне. Калі людзі збіраюцца ў адным месцы дзеля правядзення пэўнай сумеснай акцыі ці проста бавіць час, так ці інакш, незалежна ад іх волі, яны робяцца судзельнікамі новай явы, яны нараджаюць новы камунікатыўны арганізм, фактычна, новую ментальную істоту. Сустрэчы робяць гісторыю і вызначаюць стан паводзін. Сёння мы існуем у сітуацыі мала артыкуляванага рытуалу, калі сустрэчы пераважна непрадвызначаныя і выпадковыя, мы адчуваем неабходнасць рытму кантактаў і таму імкнемся адчуць яго праз правядзенне радыкальных акцый. Мы знаходзімся ў сітуацыі перманентнага перфомэнсу непрадвызначанасці. Нашыя продкі свой лад жыцця вызначалі паводле цыклічнасці космасу, сонца, працы. Кожны год паўтараліся ў адзін і той жа час адныя і тыя спевы, адныя і тыя дзеянні, у прасторы правераных стагоддзямі гукаў і рухаў чалавек адчуваў сябе абароненым і, разам з тым, мог праявіць сваю індывідуальнасць у большай ступені, чым мы сёння (народныя песні захоўваюць сваю структуру ад пакалення да пакалення, аднак у кожнай вёсцы і кожны спявак іх выконвае па-свойму, у межах вызначанага канона. Ніводзін вясковы строй не паўтарае адзін аднога, арнаменты заўсёды розныя, хоць і падлягаюць агульным правілам прачытання). Масавая міграцыя ў горад, мэтанакіраваная палітыка на разбурэнне вясковай культуры як матэрыяльнай, так і духоўнай прывяла да разбурэння ўкладу чалавека. Імкненне прымусіць чалавека жыць паводле штучна прыдуманага рытму — дзяржаўных — святаў можна параўнаць са здзекам над яго фізічнай абалонкай на дыбе ці пракруставым ложы. Масавыя відовішчныя палітызаваныя святкаванні выклікалі калапсы альтэрнатыўных мітынгаў. Таму ўзнаўленне спрадвечнага рытму жыцця, прынамсі яго вывучэнне, сёння неабходнае і мае не толькі навукова-практычны і тэарэтычны сэнс, але можа прынесці плён і для бытавога жыцця сённяшняга чалавека. Спробай такога праекта стаў Фестываль аўтэнтычнага фальклору Беларускага Падняпроўя, які прайшоў у гэтым годзе на Магілёўшчыне і быў арганізаваны Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, упраўленнем культуры Магілёўскага аблвыканкама, Беларускім універсітэтам культуры.

З сучасным станам навуковага асэнсавання феномена беларускага аўтэнтычнага фальклору пазнаёмілі прысутных навукоўцы на канферэнцыі "Традыцыйная мастацкая культура Магілёўшчыны: аднаўленне і падтрымка", якая прайшла ў межах фестывалю. Як падкрэсліла прарэктар Беларускага інстытута праблем культуры Марыя Крыловіч на адкрыцці канферэнцыі, сучасная беларуская культура на фоне еўрапейскай мае унікальную захаванасць аўтэнтыкі, вывучэннем якой інстытут займаецца з самага пачатку свайго існавання. Як падкрэсліў намеснік начальніка абласнога ўпраўлення культуры Валянцін Лаўцоў, экспедыцыі інстытута па вобласці дазволілі выявіць такія крыніцы народнай творчасці, пра якія на месцах часам і не здагадваліся. З вынікамі даследаванняў 1993—1995 гадоў сучаснага стану традыцыйнай мастацкай культуры беларусаў Падняпроўя на Магілёўшчыне ўдзельнікаў канферэнцыі пазнаёміла загадчыца лабараторыі традыцыйнага мастацтва аддзела народнай творчасці БІПК Тамара Варфаламеева. На яе думку, на фестывалі беларусы ўпершыню прагучалі як этнас, нацыя. Падчас экспедыцый інстытута навукоўцы пабывалі больш як у 150 вёсках, вывучаўся народны танец, строй, вынікамі даследавання сталі 130 аўдыё- і відэакасет. Дзеля таго каб традыцыйная культура захавалася, неабходна існаванне вуснай перадачы фальклору ад пакалення да пакалення. Загадчык кафедры беларусазнаўства Інстытута падвышэння кваліфікацыі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі Іван Крук падкрэсліў, што фестываль дазволіў Магілёву стаць на нейкі час цэнтрам сусвету. Справа ў тым, што ў апошні час склаўся культурніцкі стэрэатып, згодна з якім кожны абласны цэнтр адыгрываў сваю унікальную ролю. Так, на думку даследчыка, Мінск стаў цэнтрам культуры, Гродна сімвалізаваў архітэктуру краіны, Брэст — патрыятычны дух, Віцебск стаў вядомы дзякуючы мастацкім школам. На гэтым фоне ўпершыню так моцна праявіўся Магілёў, які здолеў зрабіць тое, што не зрабіла яшчэ ніводная краіна — паказаць душу народа. Паводле слоў даследчыка, што тычыць адносінаў чалавека з навакольным светам, мы знаходзімся ў стане "інфернальна-маргінальнага гвалту". Мы ўвесь час з-за няведання народнай традыцыі, якая акумулюе ў сабе семантыку свету, дапускаем памылкі. Гэта праяўляецца і ў тым, што падчас тэлевізійнага "фальклорнага" свята можна бачыць удзельніцу з вянком дзяўчыны і фартухом жанчыны... Нам невядомы элементарныя паводзіны падчас вяселля ці пахавальнага рытуалу. Адказы на такія пытанні хутка можна будзе атрымаць у новай кнізе Івана Крука "Да вытокаў народнай культуры". Супрацоўнік БІПК Вольга Басько пазнаёміла прысутных з праблемамі аднаўлення і захавання святочных абрадавых традыцый на Магілёўшчыне, яна звярнула ўвагу на тое, што часта носьбіты фальклорнай традыцыі не ведаюць кода, што першапачаткова значыў той ці іншы сімвал, знак, рух. Пра сучасны стан традыцыйнай радзіннай абраднасці беларусаў Падняпроўя распавяла Таццяна Кухаронак, традыцыям і навацыям у сучаснай пахавальна-памінальнай абраднасці Магілёўшчыны быў прысвечаны даклад Уладзіміра Сысова. З вынікамі даследавання танцавальнай традыцыі Магілёўшчыны можна было пазнаёміцца, паслухаўшы спавешчанне Мікалая Козенкі, пра традыцыйныя народныя строі Сярэдняга Падняпроўя распавёў прафесар Міхась Раманюк. Падчас гутаркі з супрацоўнікамі мясцовых установаў культуры абмяркоўваліся шляхі захавання народнай традыцыі.

Такім чынам, быў пакладзены пачатак даследавання і адраджэння народнай аўтэнтыкі не толькі на прэзентацыйным узроўні, але і актуалізавана магчымасць яе існавання ў сучасным свеце.

**Матэрыялы 6-й і 7-й палос падрыхтаваў Алесь ТУРОВІЧ**

## ЗАМЕСТ КРОПКІ

# “АЛЕ СМЯРОТНЫ ЧАЛАВЕК — ВЕЧНЫ...”

ПРЫЧЫНА, што прымушае чалавека пакінуць радзіму, у кожнага свая. Але ёсць адна, якая аб'ядноўвае ўсіх: няўпэўненасць у заўтрашнім дні. Такім чынам вандравалі першабытныя плямёны качэўнікаў, усвядоміўшы, што зямля, на якой яны жылі, вычарпала свае магчымасці — і ў імя выратавання роду трэба мяняць месца жыхарства.

Калі мы развітваліся, Яфім Гольба сказаў мне: “Пісаць не буду — не хачу ўскладняць табе жыццё. Я зрабіў выбар назаўжды, а табе жыць у гэтай краіне — і хай у КДБ будзе меней працы”.

Ад'язджаў не проста сябар, а чалавек, які быў для многіх з нас настаўнікам, эталонам мастацкага густу. Гаваркі, вольналюбівы, ён здолеў захаваць у нашых таталітарных умовах незалежнасць, свабоду мыслення. Гэта быў таленавіты мастак, скульптар, паэт. Улады цкавалі яго за чалавечае жаданне жыць паводле законаў свайго таленту і сумлення. У міліцыі ён стаяў на ўліку як дармаед. Вечна галодны жабрак, “наш Пірасмані” (так мы яго называлі) жыў у скляпенні-майстэрні непадалёк ад мінскага кафэ “Вясна”. З-пад ягонага пэндзля і разца выходзілі цудоўныя творы, з-пад пяра — чароўныя вершы і фантастычныя апавяданні. Але нічога з гэтага ён не змог ні прадаць, ні выставіць, ні апублікаваць. Знаўцы мастацтва куплялі ягоныя творы амаль дарма. Многія творы ён дарыў. Калі аднойчы злодзеі залезлі да яго ў майстэрню і пакралі карціны, ён сказаў з вясёлай усмешкай: “У мяне крадуць — значыць, прызналі”. Падпрацоўваў ён на хлеб, фарбы, штаны выпадкова: іншы раз мастаком на заводзе, іншы раз вартаўніком. Але надоўга не затрымліваўся нідзе. І не дзіўна: калі да яго прыходзіла натхненне, ён забываўся на ўсё на свеце. Зачыняўся ў сваім скляпенні і суткамі працаваў. З'яўляўся худы, галодны, з запалёнымі вачыма, чытаў свае новыя вершы, апавяданні і запрашаў глядзець сваю новую карціну альбо скульптуру. Мы, як маглі, падсілкоўвалі яго са сваіх невялікіх заробкаў.

Пераадолеўшы прыніжанасць, сорам і мянушку “здраднік”, ён паехаў па выратавальнай візе за мяжу. На развітанне падарыў мне свой апошні верш. Сканчваецца ён такім чынам:

*... Во дворах жгут*
*осенние листья.*
*Горький дым, сладкий дым,*
*горький дым.*
*Наплутал я в погоне*
*за счастьем.*
*Наплутал. Заблудился.*
*Аминь...*

... У Нью-Ёрку маё патаемнае жаданне пабачыць яго, мабыць, пачуў Бог. Я наўздагад адкрыў тэлефонны даведнік і адразу ж убачыў ягонае прозвішча, вельмі рэдкае. Некалі ён пажартаваў: “Я нашчадак іспанскіх графаў — адна з правінцый Іспаніі носіць маё імя”. Я патэлефанаваў, не верачы ў цуд. І калі пачуў ягоны незабыўны голас, слёзы накаціліся на вочы: сябар вяртаўся з небыцця.

Я чакаў яго на вуліцы ў раёне Манхэтэна, дзе жывуць мастакі.

... Усе гэтыя гады пра яго хадзілі самыя розныя чуткі. Нават самыя страшныя. Дахаты ён амаль не пісаў: для сваякоў з юнацтва ён быў “адрэзанай лустай”, хаця да разрыву яны ганарыліся ім. Скончыў школу з залатым медалём, ва універсітэце атрымоўваў падвышаную стыпендыю... І раптам на трэцім курсе Беларускага дзяржаўнага універсітэта кінуў усё і паехаў у Казахстан будаваць чыгунку, адгукнуўшыся на заклік паспрабаваць сябе ў працоўных подзвігах на вялікіх будоўлях камунізму. Чарговая будоўля патрабавала бясплатных працоўных рук. Подзвіг не адбыўся. Ён раней многіх з нас зразумеў гэты дзяржаўны падман моладзі. Дзесяткі тысяч паламаных лёсаў...

Прайшла чарговая “адліга”. Зноў застыгла ад марозу краіна. Пачаўся чарговы разгул пабудовы “развітога сацыялізму”. Наш бронецягнік грукатаў “на запасном пути”, імкнучыся шумам стварыць ілюзію руху. Абвастрылася паляванне за ведзьмамі: “адстрэл” таленавітых людзей. Свет



Яфім Гольба

напалохана глядзеў на чарговы разгул д'ябальскіх гульняў у “імперыі Зла” і адчыняў свае дзверы, ратуючы тых з гэтага тэрарыума, хто не паспеў трапіць у лагеры, турмы, псіхіятрычныя шпіталі.

Надышла мяжа цярплівасці...

... Я пазнаў яго здалёк. Тая ж няўрымслівая хада і неахайна расшпіленая кашуля, але калісьці шырокая барада стала клінападобнаю. Першнаперш ён папытаўся: “Што будзеш піць?” —“Што і на радзіме”, — усміхнуўся я. “Чарніла” тут не прадаюць”, — з'едліва ўсміхнуўся ён. Вочы ягоныя, якія заўсёды зіхацелі натхнёным святлом, блішчэлі, але гэтае святло не прываблівала, не грэла. Я чакаў узнёслых крыкаў, пытанняў. Але ён выхапіў руку, крыкнуў: “Я зараз!”, заскочыў у бліжэйшую краму і вярнуўся з пляшкай “Смірноўскай” гарэлкі. “Пайшлі!” — кінуў ён і пайшоў, не азіраючыся. Я ішоў за ім разгублены, і ўсе пытанні за гэтыя доўгія гады расстання змяшаліся ў адно цяжкае: “Што з ім?”

“Мой дворык”. Акв., 1970.

Збянтэжаны, я не памятаю, што казаў і што адказваў. І неяк інтуітыўна адзначыў, што з кожным новым паваротам вуліцы робяцца вузейшымі, цямнейшымі ды бруднейшымі. І толькі ў крамах ярка свяціліся вітрыны і прылаўкі ламіліся ад тавараў. Ля дзвярэй маленькага бара, склаўшы рукі, у блішчастай вопратцы стаяў велізарны негр-паліцэйскі. Яфім баязліва паглядзеў на яго і абышоў. Убачыўшы наступнага, зрабіў тое ж самае. Я ўзгадаў: гэтаксама ён абыходзіў міліцыянераў у Мінску.

Нарэшце мы ўвайшлі ў стары, абдзёрты дом. Ля дзвярэй ён, лісліва ўсміхаючыся, растлумачыў вартаўніку, што вядзе госця з Савецкага Саюза. Той неахвотна зірнуў на нас і зноў утаропіўся ў тэлевізар. У цесным, дрыжачым ліфце мы падняліся на дванаццаты паверх. У пакоі быў поўны разгром. Мы ўладкаваліся на матрацы, што ляжаў на падлозе. Ён адкрыў бутэльку, разліў гарэлку па шклянках і сказаў: “За сустрэчу! Паехалі!” Я шукаў вачыма сярод нагрувашчаных рэчаў ягоныя карціны і папытаўся: “Ці ёсць у цябе майстэрня?” — “Пакуль няма”, — абыякава адказаў ён, выпіў залпам і наліў зноў.

Я ўсё спрабаваў уцягнуць яго ў размову, выклікаць успамін пра радзіму, называў імёны знаёмых, вуліцы нашага горада. Ён нешта мармытаў у адказ, паціскаючы плячыма. І раптам ускочыў і з надрывам пачаў распавядаць:

“Ад голаду тут не памрэш. Не дадуць памерці: Амерыка — нібы цудадзейны абрус — усё для страўніка! Тут можна сканаць толькі ад духоўнай тугі. Але ёй гэта не пагражае, як і ўсім жыхарам. Нью-Ёрк — бездухоўны горад, ён страшны і вялікі. Лепшыя музеі свету, мноства тэатраў — усім гэтым большасць жыхароў не цікавяцца. Усё гэта — для турыстаў: тыя, хто валодае гэтым багаццем, робіць на ім бізнес. Усё прадаецца. І мяне яны хацелі набыць. Але ў іх не атрымаецца! — пракрычаў ён у разбітае вакно, пагражаючы кулаком бясконцым дахам, цямнеючым у вячэрнім небе. Ён выпіў залпам і пачаў гаварыць марудным, такім знаёмым мне, прыгожым, “аксамітным” голасам: “ Толькі ў нас на Радзіме ёсць дух. Хворы, знясілены, пакутуючы, але вялікі ДУХ! Тут гэтага ніхто не ў стане зразумець! Не дадзена!”

“Можа, вернешся?” — асцярожна прапанаваў я. “Навошта? —стомлена адказаў ён. — Там зламалі маю душу. Тут, зламаная, яна нікому не патрэбна. Усё. ысу. “Нью-Ёрк — гэта жыццё. Нью-Ёрк — мая смерць...” — прачытаў ён з затуманеным позіркам і патлумачыў: — Гэта адзіныя радкі, якія я напісаў тут... Ты думаеш, я нічога не зрабіў. Думаеш, я — жабрак?”

Ён ускочыў, адкінуў рэчы, што ляжалі на падлозе, падняў карціну ў простай драўлянай раме і паставіў яе перада мной: “Глядзі, яна каштуе мільён. Але я не прадаю. Называецца “Зорка, якая звалілася ў кубак з малаком”. Сваю душу я не прадаў нават у сябе на радзіме, а тут...” — ён пачаў блытана распавядаць, узбуджаючыся і размахваючы рукамі.

А я застыў, уражаны. Здавалася, я трапіў у свет Босха. У верхнім куце карціны ў бардовы кубак з малаком вёў след ад зоркі, што трапіла ў яго. Пырскі ад малака разляцеліся па ўсёй прасторы карціны, і ў ёй былі бачныя твары людзей, звяроў і птушак. З правага боку з рамы выпаўзала вяровачная лесвіца і знікала ў трывожным святле воблакаў. Усё гэта нагадвала Ноеў каўчэг, канец ці пачатак новага свету. Фарбы нібыта зіхацелі знутры нейкім боскім святлом — і віднелася скрозь іх такая глыбіня, нібыта не было палатна, і перада мной адкрыўся Сусвет у сваёй непазнанай і прыцягальнай бездані.

Мы гутарылі ўсю ноч. Якія фрагментарныя і няпэўныя былі яго ўспаміны пра Радзіму, пра сваё жыццё там. Здзіўляўся, што ўсе памятаюць пра яго, і не разумеў, калі я напамяць цытаваў ягоныя вершы. На нейкі час мне падалося, што ён вяртаецца да нашага жыцця — і я пачаў пазнаваць яго. Але гэта было неяк няпэўна — нібы да чалавека вярталася свядомасць пасля кантузіі.

Раніцай я адлятаў. Развітваючыся са мною ў аэрапорце Кенэдзі, ён сказаў: “Бог павярнуўся тварам да нашай радзімы. Жудасны эксперымент, здаецца, скончыўся. Толькі вялікі народ мог вытрымаць такія выпрабаванні і не зламацца. Я веру, у нас будзе сапраўднае чалавечае жыццё”. — “Вось і прыязджай! — радасна падхапіў я. — Ты ж больш за нас змагаўся за тое, што нарэшце пачынае здзяйсняцца.” Вочы ягоныя ўспыхнулі тым чароўным бляскам, які ўражваў, калі ён жыў сярод нас на радзіме “непрызнаным геніем”. “А як наконт здрадніка радзімы? — горка ўсміхнуўся ён, і святло ў вачах знікла. Ён сумна махнуў рукой. — Не, мне гэтага не даруюць?” — “Хто?” — папытаўся я. “Радзіма... Але ж, аднак, хіба ўлады — гэта радзіма? Вампіры ды сатрапы паміраюць. Але смяротны чалавек — вечны...”

... Згодна з абсурднымі законамі нашага жыцця разбураліся сяброўскія сувязі, сем'і, калектывы. Гэтыя незваротныя страты кожны памятае не толькі ў гадзіну жальбы — яны з намі заўжды, таму што існуе памяць, непарыўная сувязь людзей праз Час і Сусвет. А калі чалавек быў творчай асобай — з намі застаецца несмяротны дар: плён ягонай працы.

**Барыс РОЛАНД**



“Скралі каханую”. Акв., 1970.

***Яфім ГОЛЬБА***

### МЕТАМОРФОЗЫ

*Бабочка и луна*
*Ночь*
*Крылья и нежные ноздри*
*Пегас*
*И свеча*
*Из мрака крылатые кони*
*Летят на свечу*
*Свеча обливается потом*
*ПОЭЗИЯ.*



“Казкі майго дзяцінства”. Акв., 1969.

***Яфім ГОЛЬБА***

### А ВЫ ЧУЛІ? У КОЖНАГА ДАЖДЖУ — СВАЯ ПЕСНЯ

Аркестр крочыў проста пасярэдзіне веснавой вуліцы. Ярка зіхацела сонца. Гучала музыка. І музыка была такая не падзельная ад сонца, а сонца было такое не падзельнае ад музыкі, што можна было беспамылкова сказаць наадварот: гучна спявала сонца, ярка зіхацела музыка. Па тратуары наўздагон беглі хлапчукі, размахваючы рукамі, падскокваючы, вар'яцеючы.

Проста да сонца крочыў аркестр. Усю карціну назірала вадасцёкавая труба пяціпавярховага дома, што стаяў на гэтай вуліцы. Ах, як зайздросціла яна тым зіхаткім ад тысяч маленькіх сонцаў кручаным трубам духавога аркестра.

— Гэта ж таксама трубы, але...

Ах, далей было лепей не разважаць. Ніякага падабенства яе аднастайны, дамаседскі лёс не меў са святочным, спяваючым лёсам тых... Ах, яны папросту надзьмуліся ад гонару!

Але раптам музыка змоўкла. Адбылося тое, што часта бывае ўвесну. Невядома адкуль наляцела хмарка, сонца схавалася, і лінуў сапраўдны лівень. Усе кінуліся хто куды. Гэта ж быў дождж — ого, сапраўдны!

А дождж не можа абысціся без вадасцёкавых труб.

І вадасцёкавая труба заспявала. Безумоўна, гэта была не такая гучная, не такая прыгожая, не такая... як у тых. Але ў кожнага дажджу ёсць свая песенька, і яна павінна быць прапетая да канца.

*Красавік 1968 г.*
*(Пераклад з рускай мовы Дзіны КІРЫЛАВАЙ)*

КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА - АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991 года
Заснавальнік — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Алег КАМІНСКІ



Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1,
Тэлефон: 76-94-66



Фармат А3. Індэкс 63875
Агульны наклад 2680
Замова
Друкарня выдавецтва “Беларускі Дом друку”.
М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.